адна зямля




Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

4 красавіка 2003 года

№ 14 (415)
Выходзіць па пятніцах

ПАНОС Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёну

### «Сюрпрыз»

**ВІЛЕЙКА.** На мінулым тыдні нехта прыслаў у ПТВ-48 канверт з белым парашком.
Яго накіравалі на почырказнаўчую і хімічную экспертызу ў Мінск. На выгляд сумесь нагадвае соду ці дробны пральны парашок.

Ірына РАБУШКА.

### Настаўнік года

**МЯДЗЕЛ.** У райцэнтры прайшоў фінал конкурсу "Настаўнік года". Прынялі ў ім удзел педагогі са стажам работы ад 1 да 10 год. Яны паказалі хатняе заданне, вызначылі лепшага эрудыта, прадэманстравалі свае захапленні.
А да фіналу настаўнікі паказалі адкрытыя ўрокі. У выніку першае месца заняла настаўніца біялогіі **Жанна Куцкевіч** з Кабыльніцкай школы.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Прайграла сама сабе

**ВАЛОЖЫН.** 9-класніца **Вольга Макей** перамагла на рэспубліканскіх спаборніцтвах па конным спорце, якія прайшлі ў Гомелі.
У асабістым чэмпіянаце, дзе спаборнічалі 25 спартсменаў, Вольга выступала на двух конях і заняла 1-е і 2-е месцы. Прайграла сама сабе 0,2 секунды. Вольга стала чэмпіёнкай і ў камандным заліку ў складзе зборнай Мінскай вобласці.

Наталля ШТЭЙНЕР.

### Не ўцёк

**СМАРГОНЬ.** Не спыніўся па патрабаванні работнікаў ДАІ мікрааўтобус "Фольксваген-Транспарцёр".
За ім наладзілі пагоню. Вадзіцель паехаў за межы горада і кінуў аўтамабіль каля вёскі Ваські. Злачынца затрымалі. Высветлілася, што ён вёз са Смаленска 31376 пачак цыгарэт без акцызных марак. Тавар канфіскавалі, а вадзіцеля суд Смаргонскага раёна аштрафаваў на 250 тысяч рублёў.

Аддзел інфармацыі "РГ".

### Фотаздымак на памяць

**МАЛАДЗЕЧНА.** 2 красавіка ў Маладзечна прыязджаў старшыня Мінскага аблвыканкома Мікалай Дамашкевіч.
Ён перадаў кожнаму ўдзельніку клуба ветэранаў вайны і працы "Адпачынак" фотаздымкі, зробленыя летась разам з прэзідэнтам Беларусі на адкрыцці Палаца культуры. Яшчэ ветэраны атрымалі па 50 тысяч рублёў.

Вольга ПІЛІПЕНКА.



# Ганчарных спраў майстры

**СМАРГОНЬ. У Святлянах ёсць вядомы за межамі вёскі будынак.**

Гэта майстэрня братоў **Сяргея і Кірыла Нагаевых.** Браты Нагаевы – ганчары. Месяц таму яны атрымалі званне народных майстроў. Падобных майстэрняў на Гродзеншчыне больш няма.

Вырабы братоў Нагаевых ёсць у прыватных калекцыях смаргонцаў. Вядомыя іх творы за межамі горада і краіны. Сяргей і Кірыл Нагаевы вазілі свае тавары ў Мінск, Брэст, Гродна. Пры ад'ездзе за мяжу некаторыя смаргонцы сталі вазіць як сувеніры нагаеўскую прадукцыю.

Так апрацаваная крэўская гліна трапіла ў Грэцыю, Чэхію, Аўстрыю.

Для братоў Нагаевых заняткі ганчарствам – гэта і творчасць, і бізнес.

– У апошнія часы – больш усё-такі творчасць, – гаворыць старэйшы з братоў Сяргей.

Цяжка стала са збытам. Людзей, якія могуць сабе дазволіць купіць гліняныя вырабы, становіцца менш. Да прыкладу, рабочы, калі вырошчвае пасадзіць кветкі на вуліцы, хутчэй зробіць драўляную кадку, чым купіць 40-літровую вазу з гліны за 50 долараў.

У братоў Нагаевых ёсць час рабіць не толькі тавары на заказ: вазы, бочкі, але і скульптуры "для душы". Ажыццявілася мара зрабіць з гліны Дон Кіхота і Санча Пансу, якія чакалі свайго часу каля дзесяці гадоў. Хаця і скульптуры "для душы" аказаліся запатрабаванымі – гліняных герояў рамана Сервантэса купіў прыватнік.

Чаму ганчарства стала іх заняткам, браты не адказалі. Гаварылі, не задумваліся над гэтым. Можа, таму, што нарадзіліся ў пасёлку Лясны ў Раванскай вобласці, які быў багаты на майстроў ганчарнай справы? Ці сказаліся бацькоўскія карані, бо маці добра вышывае, а дзядуля быў выдатным цесляром? А можа, таму, што з дзяцінства абодва добра малявалі?

Браты, нягледзячы на 4-гадовую розніцу ва ўзросце, сябравалі здаўна, колькі сябе помняць. Вучыліся ў адной школе, служылі ў адной часці, скончылі Бабруйскае вучылішча мастацтваў. Калі малодшы прыйшоў з арміі, старэйшы зацягнуў яго ў ганчарства. Тады ім было 19 і 23 гады адпаведна.


Народныя майстры ганчары Сяргей і Кірыл Нагаевы ў сваёй творчай майстэрні. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

У 1993 годзе па дамоўленасці са старшынёй праўлення калгаса імя Калініна Канстанцінам Шульгой Нагаевы ўзялі ў арэнду ў Святлянах будынак калгаснай сталовай, які яшчэ раней быў клубам. Праз некалькі гадоў браты будынак выкупілі. Мінулай восенню навазілі камянёў, каб вымасціць дарожку да майстэрні. Збіраюцца паставіць прыгожы плот, спілаваць старыя дрэвы, якія выраслі аж пад дах. Яно і вядома: мастацкая майстэрня выглядаць павінна мець адпаведны. Давядзецца братам касметычны рамонт зрабіць унутры памяшкання, хаця работа ля ганчарнага круга не прадугледжвае белых халатаў.

Побыт у творах Нагаевых не знікае. Прыязджалі бізнесмены, якія хацелі бы браць тавары Нагаевых на продаж у Маскву, у Нарвегію. Але ім трэба многа тавару – фура. А столькі Нагаевы і за год не зробяць.

Няма ў братоў пакуль вучняў, якія б маглі пераняць ганчарныя традыцыі. Ісці ў школу і выкладаць ганчарную справу Нагаевы не хочуць, бо там малая зарплата і вялікая валакіта з паперамі. Хацелі б запрасіць аднаго-двух старшакласнікаў, які б жадалі ўзяцца за справу ганчара. І грошай за навучанне не бралі бы.


Вось што атрымліваецца з крэўскай гліны ва ўмелых руках. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Але і без работы браты не сядзяць: сёлета Смаргонь адзначае сваё 500-годдзе, таму гліняны посуд са смаргонскай сімволікай вырабу братоў Нагаевых павінен на свяце ісці "з малатка". У горадзе чакаюць шмат гасцей, а што можа быць лепш за падобны сувенір?

Тарэса КУМІШЧА, Юрый КАРПІЦКІ.

### Мухідумаліяздох

Напярэдадні свята дурняў і падманутых у Маладзечна прыехаў рэдактар гумарыстычнага часопіса "Вожык" Алесь Пісьмянкоў, паэт і празаік-гумарыст Анатоль Зэкаў і мастак Павел Шычко.

2-я старонка

### Беларускія грэкі адсвяткавалі юбілей

Рэспубліканскаму аб'яднанню грэкаў "Пелапанес" споўнілася 5 гадоў. У нашым рэгіёне пражывае 38 грэкаў. Не ўсе з іх здолелі пабываць на сваёй гістарычнай радзіме.

6-я старонка

### Ліст Агінскага сыну Ірэніўшу



Супрацоўнікі музея імя Агінскага ў Залессі знайшлі ліст Мікалая Клеафаса свайму сыну Ірэніўшу, які напісаны ў 1825 годзе.

8-я старонка

■ ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

# Убіраць ці не ўбіраць?

**МАЛАДЗЕЧНА. На гэтым тыдні трох нашых чытачоў цікавіць пытанне наконт смецця.**

— Нашая сметніца стаіць далёка ад дома. Хаджу выкідваць смецце за паўкіламетра. У такім становішчы тры 100-кватэрныя дамы. Сярод жыхароў шмат пажылых людзей. На якой адлегласці павінна быць сметніца ад дома? Усё навокал закідана смеццем.

**Ядвіга Валынец**, вул.Ларына, 5.

— Не ведаю, як пазбавіцца ад сметніцы, што стаіць у двары. Вецер усё разносіць. У двары вельмі брудна.

**Мікалай Шыцік**, вул. Б.Хмяльніцкага, 32.

— Як выкінуць смецце, калі смеццяўборачная машына прыязджае ў 14 гадзін? У гэты час амаль усе на рабоце. А калі і прыходзіла да гэтага часу, то машыны не было.

**Марыя Урбановіч**, вул.-Меліярацыйная, 2-б.

За адказам карэспандэнт "РГ" звярнулася ва унітарнае прадпрыемства "Камунальнік" да намесніка дырэктара па жыллёвых пытаннях **Валерыя Віткоўскага**.

— Што тычыцца першага пытання, то норма адлегласці сметніцы ад дома павінна быць да 400 метраў. Але адна справа нормы, а іншая – фінансаванне. Паставіць кантэйнер у двары гэтых дамоў не атрымліваецца. Па-першае, няма кантэйнера, па-другое, няма ўмоў для яго ўстаноўкі. Адлегласць ад вокнаў будынка павінна быць не менш за 25 метраў. На праезную частку таксама не паставіш. Каля газавай пляцоўкі кантэйнер варта абавязкова агароджваць. Ёсць прадпісанне санэпідстанцыі прапрацаваць пытанне да 1 мая па перастаноўцы смеццевага кантэйнера. Але гэта павінна быць зручна жыхарам вуліц Ларына, Садовай і Паркавай.



Шмат у якіх дварах стаяць смеццевыя кантэйнеры. Але не ўсім маладзечанцам гэта падабаецца.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Наступнае пытанне з кантэйнерам па вул.Б.Хмяльніцкага, 32. Адказ адзін – адтуль убіраць сметніцу не плануем. Іншая праблема, якую не можам вырашыць, — паставіць агароджы вакол кантэйнераў, бо кошт адной складае мільён рублёў. Сметніц у горадзе – 47.

А ў раскіданым смецці вінаваты не толькі вецер. Жыхары кідаюць ў сметніцу і табурэты, і скрыні. Таму аб'ём хутка запаўняецца. Кантэйнеры прызначаныя для бытавых адходаў. Дарэчы, камунальныя службы рэгулярна – не радзей чым 2 разы на тыдзень – вывозяць смецце.

Скаргаў па трэцім пытанні не было. Гэта першая. Пытанне застаецца адкрытым. Возьмем на кантроль. Увогуле па горадзе ездзяць смеццяўборачныя машыны з 5.30 да 21 гадзіны. Па графіку гэта павінны рабіць 4 машыны. Але яны ламаюцца.

**Ірына РАБУШКА.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 27.03 руб. | 3.04 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1994,00 | 2000,00 |
| Еўра | 2121,32 | 2166,70 |
| Злоты | 490,83 | 490,95 |
| Літ | 614,46 | 627,64 |
| Расійскі рубель | 63,54 | 63,93 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1975/1998 | 1990/2005 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 26.03 | 2.04 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 11890 | 11890 |
| Сасіскі, 1 кг | 3900 | 4090 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 1 кг | 780 | 780 |
| Грэчка, 1 кг | 1400 | 1400 |
| Цукар, 1 кг | 1140 | 1140 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1150 | 1000 |
| Алей, 1 л | 1700 | 1700 |
| Маянэз, 200 г | 300 | 450 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2000 | 2000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 800 | 800 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 650 | 650 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 950 | 950 |
| Капуста, 1 кг | 840 | 1000 |
| Морква, 1 кг | 1000 | 1000 |
| Лімоны, 1 кг | 2200 | 2400 |
| Апельсіны, 1 кг | 1700 | 1800 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 600 | 600 |
| Смятана, 1 л | 1700 | 1700 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 1700 | 1700 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1300 | 1400 |
| Бульба, 1 вядро | 3800 | 3600 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 950 |

■ ПРАВЕРКІ

## Выяўленыя парушэнні

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю Мінскай вобласці выявіў парушэнні пры чарговай праверцы прадпрыемстваў.**

Пры праверцы маладзечанскіх прадпрыемстваў, якія аказваюць рытуальныя паслугі "Рытуал-сэрвіс", "Рамбыттэхніка", "Маладзечнабудіндустрыя", устаноўлены парушэнні заканадаўчых і нарматыўных актаў па цэнаўтварэнні. Па выніках праверак суб'екты гаспадарання аштрафаваны на 1,5 мільёна рублёў, да адміністрацыйнай і дысцыплінарнай адказнасці прыцягнулі 4-х чалавек.

Пры праверцы фінансава-гаспадарчай дзейнасці замежнага унітарнага прадпрыемства "Харш-Бел" выявілі факты парушэння парадку правядзення знешнегандлёвых аперацый. Прадпрыемства аштрафавалі на 51,3 тысячы расійскіх рублёў.

Таксама супрацоўнікі камітэта выявілі парушэнні па пытаннях налічэння і выдачы заработнай платы ў Пятроўшчынскай школе-садзе. Былы дырэктар Жанна Дараховіч неаднаразова дапускала грубыя парушэнні касавай дысцыпліны. Па матэрыялах праверкі ўзбуджаная крымінальная справа.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Вакансія – карэспандэнт

Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" праводзіць конкурс на замяшчэнне вакантнай пасады карэспандэнта.

Патрабаванні: уменне ўбачыць факт, працаваць са словам, камунікабельнасць, адказнасць, валоданне персанальным камп'ютэрам або жаданне яго асваення, імкненне удасканальваць свой творчы патэнцыял, вышэйшая адукацыя.

Рэзюмэ з суправаджальным пісьмом дасылаць на паштовы або электронны адрасы газеты ці факсам да 30 красавіка. Пры неабходнасці далейшых кантактаў рэдакцыя скантактуецца з патэнцыйнымі кандыдатамі.

**222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**Электронны адрас: regionnews@promedia.by**
**Факс: 01773—69667, 53841.**

■ НАША МАРКА

## Пераможца пакуль не вызначаны

**ВІЛЕЙКА. 10 сакавіка закончыўся прыём прапаноў ад чытачоў "Рэгіянальнай газеты" на конкурс гандлёвай маркі і слогана Вілейскага гарадскога малочнага завода.**

Толькі на рэдакцыйныя адрас і тэлефон адгукнуліся 15 канкурсантаў (ёсць сярод іх і сямейныя каманды), даслаўшы ў агульнай колькасці больш за паўсотні розных прапаноў. Ёсць з чаго выбіраць. У мінулым нумары мы ўжо пісалі аб тым, што на заводзе з усіх прапаноў адабралі прапановы чатырох канкурсантаў, імёны якіх пакуль не называюцца. Канчатковае слова – за абласным кіраўніцтвам гармалзавода, якое рашэнне яшчэ не прыняло.

Нагадваем, ААТ "Вілейскі гармалзавод", прадукцыя якога добра вядомая ў рэгіёне і за яго межамі, а таксама рэдакцыя нашай газеты аб'явілі конкурс сярод чытачоў выдання на лепшы слоган (дэвіз) і гандлёвую марку прадпрыемства. Для пераможцаў конкурсу прадугледжваецца першая прэмія ў памеры 100 тысяч рублёў, другая – 50 тысяч, а таксама заахвочвальныя прызы – "малочныя карзіны" з наборам высакаякасных прадуктаў вытворчасці Вілейскага гармалзавода.

Узрост удзельнікаў конкурсу – самы розны. **Арцёму Якубовічу** з Маладзечна 9 гадкоў, а ёсць у стосе прапаноў і работы пенсіянераў. І сярод гэтых прапаноў ёсць не проста тыя, за якія можна ўчапіцца, але якія варта будзе скарыстаць.

**"Пачнем раніцу разам!"** – кажа маладзечанка Ганна Альфер са сваёй сям'ёй. І адной з 10 прапаноў яе прапанова надаць прадукцыі Вілейскага гарадскога малочнага завода гандлёвую марку "Раніца".

**"З'ясі і яшчэ прасі!"** – заахвочвае пакаштаваць вілейскага тварагу сямікласніца маладзечанскай СШ№6 **Аня Нагайцава**. І дадае, што вілейскае малако – самае смачнае на свеце, і пра гэта ведаюць усе дзеці.

**Леанід Посахаў**, таксама маладзечанец, дае з густам і дакладнасцю падрыхтаваны праект сваіх прапаноў, з дасканаласцю апісвае кожны мастацкі элемент свайго эскіза.

Наш чытач **Дзмітрый Балаш** ад імя вілейскіх вытворцаў сцвярджае сярод іншага: **"Мы працуем – вы атрымліваеце асалоду"**. А гандлёвай маркай, на яго думку, могуць быць словы "Сілушка", "Прасторы" і іншыя.

Маладзечанка **Жанна Гарун**, якая прынесла ў рэдакцыю шмат прапаноў, у сваім лісце піша:

*Сыры, смятану,*
*малако – чамусьці –*
*Вязуць аднекуль зневядома.*
*Паверце, лепей ў Беларусі*
*Сваё, з Вілейкі, побач, дома!*

І дадае: "Ну, а што да малочных прадуктаў, то я на іх вырасла. А цяпер на пенсіі... Здаецца, і не варта размовы. А перавага, безумоўна, за вілейскімі малочнымі прадуктамі, бо дзешавейшыя, ды і лепшыя. Таму і вершы лёгка скалаліся. Мы наўмысна не раскрывалі ўсёй нашай конкурснай пошты – што за інтрыга атрымаецца? Але абавязкова паведамім аб яго выніках.

**Мікола ГАЙДУК.**

# Марафон даецца не кожнаму

### Правілы спаборніцтваў

**Вясенні марафон з 1998 года традыцыйна праводзіцца ў Маладзечанскім басейне. Спаборніцтвы праходзяць штогод у апошнія выхадныя сакавіка. Сёлета ў суботу дзяўчаты плылі 10 кіламетраў (гэта 400 адрэзкаў у 25-метровым басейне). Удзельнічала 9 спартсменак. Мужчыны плылі адлегласць у 2 разы большую. Стартавала 6 спартсменаў.**

### Вынікі «Вясенняга марафону-2003»

**Дзяўчаты:**
**1. Яўгенія Ламака (Маладзечна) 2:11.00,86**
**2. Анастасія Лях (Маладзечна) 2:14.01,61**
**3. Вераніка Бурсевіч (Маладзечна) 2:14.56,34**
**4. Вольга Уткіна (Маладзечна) 2:20.56,00**
**5. Вольга Ясіновіч (Барысаў) 2:22.40,50**
**6. Кацярына Луніна (Мінск) 2:25.55,00**
**7. Марыя Уладыка (Слуцк) 2:26.18,09**
**8. Таццяна Шавярдак (Маладзечна) 2:29.11,01**
**9. Наташа Сушчанка (Маладзечна) 2:32.05,22**
**Хлопцы:**
**1. Сяргей Пунько (Наваполацк) 4:07.27,23**
**2. Сяргей Лосік (Слуцк) 4:24.39,00**
**3. Ягор Дабранскі (Маладзечна) 4:53.35,90**
**Яшчэ 3 спартсмены сышлі з дыстанцыі.**

### Прызы

**Чэмпіёны атрымалі 40 і 60 тысяч рублёў адпаведна. Сярэбраныя прызёры – 25 і 40 тысяч рублёў, бронзавыя – 15 і 20 тысяч рублёў. Кожны ўдзельнік атрымаў майкі. Прызёры і самыя маладыя атрымалі спецыяльныя прызы.**

### Гісторыя марафонаў

**Хроніка далёкіх і звышдалёкіх заплываў бярэ свой пачатак з часоў старажытнай Грэцыі, калі легендарны Леандр кожную ноч пераплываў праліў для сустрэч з каханай. Спартанскія воіны пры бітве ля Фермапілаў пераплылі рэчку і знішчылі ўвесь флот праціўніка. У наш час праводзяцца традыцыйныя заплывы праз праліў Ла-Манш, які збірае да 200 удзельнікаў. Заплыў на 30 кіламетраў штогод у савецкія часы праводзіўся ў Чэбаксарах. Заплывы на 5 і 25 кіламетраў уключаны ў праграму чэмпіянатаў свету па водных відах спорту.**

### Медыцына

**На спаборніцтвах прысутнічаюць медыкі. Яны, акрамя назірання за агульным станам спартсменаў, якія знаходзяцца пад вялікай нагрузкай, вывучаюць фізічныя працэсы ў арганізме. І марафонскае плаванне для гэтага найлепш падыходзіць.**

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулых выхадных прайшоў традыцыйны "Вясенні марафон".**

Гэтыя спаборніцтвы ўжо шостыя па ліку. Прайшлі яны з удзелам спартсменаў з Маладзечна, Барысава, Мінска, Салігорска, Слуцка. Дзяўчаты пераадольвалі дыстанцыю ў 10, а хлопцы – у 20 кіламетраў. Турнір адначасова з'яўляецца адкрытым Кубкам горада і раёна па плаванні на доўгія дыстанцыі.

У суботу плылі "дзесятку". Новая маладзечанская "зорачка" **Яўгенія Ламака** па ходзе дыстанцыі ішла хутчэй за іншых і перамагла значна больш тытулаваную **Насцю Лях**, у калекцыі якой мноства медалёў і чэмпіёнскіх тытулаў на чэмпіянатах краіны. Давялося Насці паспаборнічаць з мацнейшымі спартсменкамі ў свеце на чэмпіянатах свету і Еўропы. Пасля свайго пераможнага фінішу чэмпіёнка прызналася, што мэта стаць чэмпіёнкай прыйшла ў ходзе заплыву, калі ўбачыла, што рэальна можа перамагчы. А перад стартам было толькі адно жаданне: даплысці да фінішу. Трэцяй стала **Вераніка Бурсевіч** з Маладзечна.

Мясцовыя **Оля Уткіна** і **Наташа Сушчанка** ўпершыню праплылі 10 кіламетраў. Абедзвюм на той момант было па 12 гадоў (Оля 31 сакавіка адзначыла сваё 13-годдзе). Прытым Оля спынілася ў кроку ад п'едэстала і заняла 4-е месца.

І неспецыялісты ведаюць, што 10 кіламетраў праплыць складана, а 20 – яшчэ складаней. З шасці мужчын даплыла да фінішу палова. Астатнія з 10-кіламетровай дыстанцыяй справіліся, але потым сышлі. Адзін зыход быў "планавы": 12-гадоваму **Лёшу Дземідзюку** яшчэ рана пераносіць вялікія нагрузкі і па загаду трэнераў ён спыніўся на палове дыстанцыі. У мужчын усё прайшло без сюрпрызаў: перамог Сяргей Пунько з Наваполацка, для якога гэта трэці пераможны фініш на "Вясеннім марафоне". Другім стаў Сяргей Лосік са Слуцка, трэцім – **Ягор Дабранскі** з Маладзечна. У адрозненне ад астатніх прызёраў, Ягор упершыню справіўся з марафонскай дыстанцыяй.



Пераможца "Вясенняга марафону-2003" майстар спорту міжнароднага класа з Наваполацка Сяргей Пунько.
Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Нягледзячы на тое, што падобныя спаборніцтвы унікальныя для нашай краіны і праводзяцца толькі ў Маладзечне, колькасць удзельнікаў паступова змяншаецца. Галоўны сакратар спаборніцтваў **Юрый Іваніцкі** тлумачыць гэта, што некаторыя вопытныя плыўцы, якія раней удзельнічалі ў маладзечанскіх марафонах, ужо скончылі кар'еру, некаторыя не бачаць вялікіх стымулаў для ўдзелу. Бо вялікая дыстанцыя "з'ядае" ў спартсменаў 3-5 кілаграмаў вагі, а грошы за перамогу сёлета невялікія.

Таму большасць карыстаецца алімпійскім прынцыпам: галоўнае – не перамога, а ўдзел. І ўдзельнічае ў спаборніцтвах дзеля таго, каб развіць у сабе маральна-валявыя якасці.

У арганізацыі спаборніцтваў дапамаглі аддзел па фізічнай культуры і спорту Маладзечанскага райвыканкома, Маладзечанская фабрыка мастацкіх вырабаў, прадстаўніцтва Нацыянальнага алімпійскага камітэта ў Мінскай вобласці, гандлёвы дом "Тройка" і прадпрымальнікі **Генадзь Хітрык**, **Наталля Герасімава**, **Алег Лях** і **Алег Багнюк**.

### Каментарый

Першы намеснік дырэктара навукова-даследчага інстытута фізкультуры і спорту Беларусі, кандыдат педагагічных навук дацэнт Павел Прылуцкі:

– Падобныя спаборніцтвы папулярныя ва ўсім свеце і ставяць звычайна адну мэту – прыцягнуць людзей да здаровага ладу жыцця. Спаборніцтвы, падобныя на маладзечанскія, — вельмі дэмакратычныя. Вось гляньце (размова ішла падчас спаборніцтваў мужчын): плывуць побач майстар спорту міжнароднага класа Сяргей Пунько, які прафесійна займаецца стаерскім плаваннем, і 12-гадовы звычайны хлапчук. Дзе яшчэ падлеткі ўдзельнічаюць разам з прафесіяналамі?

Ва ўсім свеце існуюць два віды спорту: спорт вышэйшых дасягненняў, у якім круцяцца вялікія грошы і які дае "зорак". А "зоркі" сваімі імёнамі прыцягваюць да заняткаў другім відам спорту: масавай фізічнай культурай.

У нашай краіне многа гавораць аб здароўі нацыі. Але нічога не сказана пра формы работы з насельніцтвам. Слаба мы прыцягваем народ да заняткаў спортам. На Захадзе як робяць?

У плавальным марафоне ўдзельнічаюць і прафесійныя спартсмены, і аматары плавання. Грошы за перамогу звычайна атрымліваюць першыя, бо яны больш падрыхтаваныя. Але без прыза на памяць не пакідаюць нікога. Звычайна даюць прыгожыя майкі з сімволікай спаборніцтва і надпісам "Я праплыў ..." і пішуць, якую дыстанцыю пераадолеў удзельнік.

Займацца спортам у развітых краінах прэстыжна, і ўладальнік майкі з надпісам "Я праплыў 5 кіламетраў" ці "Я праплыў 10 кіламетраў" вельмі ганарыцца гэтым і служыць узорам для астатніх. Вось наглядны прыклад прыцягнення людзей у масавую фізкультуру.

### Праблема месца

У аўстралійскім Сіднэі, дзе праходзілі летнія Алімпійскія гульні-2000, у горадзе, меншым за Мінск, ёсць 40 тэнісных кортаў, 20 ціраў, 8 шматфункцыянальных вялізных спартыўных комплексаў, безліч басейнаў. Жыхары горада не ведаюць праблемы занятасці вольнага часу, заняткі ў спартыўных збудаваннях там каштуюць капейкі. А каб купіць абанемент у Мінскі басейн, людзі стаяць у чэргах.

Прадстаўце сітуацыю: сын паўдзельнічаў у марафоне і атрымаў майку "Я праплыў кіламетр". Наступны раз ён прыйдзе на заняткі, а бацькі пойдуць у групу здароўя і паўдзельнічаюць самі ў наступным спаборніцтве. Няхай яны праплывуць там 100 метраў, затое таксама атрымаюць майкі. Бацькі будуць задаволеныя, што перамаглі сябе і заняліся спортам. Наступны раз яны праплывуць 200 метраў і будуць рыхтавацца да новых стартаў. А майку пакажуць суседзям і калегам. І хтосьці з іх прыйдзе ў басейн...

Так да заняткаў фізкультурай прыцягваюць на Захадзе. Вось і клопат аб здароўі нацыі. А ў нас пакуль стаіць праблема, дзе займацца фізкультурай. І нават у Мінску, не кажучы пра меншыя гарады і вёскі. Хаця ад эканомікі не адарвешся. Масавая фізкультура – справа людзей больш-менш забяспечаных.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ПАРТРЭТ

# Месца сустрэчы – басейн

**МАЛАДЗЕЧНА. У суботу 12-гадовыя маладзечанкі Вольга Уткіна і Наташа Сушчанка ўпершыню ў жыцці праплылі 10 кіламетраў на "Вясеннім марафоне-2003".**

У нядзелю Наташа была адной з суддзяў у мужчынскім заплыве. Вольга таксама прыйшла ў басейн, каб падтрымаць сваіх сяброў, якія змагаліся з сапернікамі і з сабой.

– Бацькі падтрымлівалі вас падчас спаборніцтваў?

– В.У.: Так, яны былі ў суботу ў басейне. Пахвалілі пасля спаборніцтваў. У мяне 31 сакавіка дзень нараджэння, паабяцалі, што купяць мне ў падарунак джынсы і сумку.

– Н.С.: Пасля спаборніцтваў сказалі "Малайчына". Плыву такую дыстанцыю ўпершыню. Падчас заплыву пахудзела на 2 з лішнім кілаграмы.

– Як прыйшлі ў басейн?

– В.У.: У басейн і ў школу прыйшла ў адзін дзень – 1 верасня 1997 года. У плаванне мяне прывёў старэйшы брат Максім. Ён летам таго года адпачываў на Нарачы. І мяне зацікавіў сваім расказам аб дыскатэках, якія там праводзіліся. А каб трапіць на Нарач, і, адпаведна, на дыскатэку, трэба добра умець плаваць. І ў мяне з'явіўся стымул для заняткаў плаваннем.

– Н.С.: Мая цётка **Алена Руткоўская** прафесійна займалася плаваннем. Была прызёрам чэмпіянатаў СССР і Беларусі. Яна прывяла мяне ў басейн і сказала, што плаванне здароўю не пашкодзіць.

– Як ацанілі свае вынікі?

– В.У.: Да гэтага старту ў мяне быў вопыт пераадольвання 5-кіламетровай дыстанцыі. У заплыве арыентавалася на Вольгу Ясіновіч з Барысава, якая плыла па суседняй дарожцы. Пасля восьмага кіламетра вырвалася наперад. Выніковаму чацвёртаму месцу вельмі ўсцешылася.

– Н.С.: Падобную дыстанцыю праплыла ўпершыню. Вынік 2,5 гадзіны не такі дрэнны. Напрыклад, Лёша Дземідзюк сёння плыве марудней (ён 10 кіламетраў праплыў за 3 гадзіны і 3 хвіліны).

Вось такія гэтыя шасцікласніцы. Яны прыходзяць у басейн толькі дзеля таго, каб перамагчы сябе. У суботу яны праплылі неверагодныя для большасці з нас 10 кіламетраў. Думаю, яны заслужылі права называцца мужнымі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Наташа Сушчанка і Вольга Уткіна ў суботу на спаборніцтве "Вясенні марафон" праплылі 10 кіламетраў.
Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**У 1994 годзе ў Варшаве выйшла першая частка дзённіка мастака Фердынанда Рушчыца. Гэты гістарычны дакумент ахоплівае 1894-1897 гады і дае агляд тагачаснага жыцця. Аб захаванні спадчыны паклапаціўся яго сын Эдвард.**

# Дзённік Фердынанда Рушчыца

**Першыя запісы дзённіка датуюцца вераснем 1894 года. Яны закранаюць не толькі ўласныя пачуцці, але і ўражанні аб падзеях і знакамітасцях часу. Шмат радкоў Рушчыц прысвяціў сваім настаўнікам Шышкіну і Куінджы. Дарэчы, разам з Фердынандам у той жа час вучыўся маляванню сусветна вядомы Мікалай Рэрых.**

*«Дзённік мой! Каб прынамсі ты ведаў, як прагну быць добрым сынам сваёй Айчыны, для яе працаваць – араць, і калі што вырасце – ёй аддаць увесь плён, бо люблю яе ўсім сэрцам сваім і толькі ёй належу целам і душою.*
*Іншыя, можа, лічаць мяне касмапалітам, а я занадта горды, каб ім тлумачыць тое, чаго яны самі не ў стане зразумець. Толькі гэтым старонкам маё сэрца можа выказаць, чаго жадае і што мілуе».*

*17 чэрвеня 1899 года фальварак Багданаў (Валожынскі раён).*



1935 год. Мастак Фердынанд Рушчыц у фальварку ў Багданаве на Валожыншчыне.

Фердынанд Рушчыц захапляўся тым, што пераносіў на палатно. Пабачыўшы маляўнічы Крым, жывапісныя краявіды Швецыі і Нямеччыны. Але больш за ўсё шанаваў менавіта мясцовыя, тутэйшыя мясціны. Шмат прац прысвяціў роднаму краю.

Бацькі мастака і ён сам жылі ў фальварку Багданаў (Валожынскі раён). У XV стагоддзі Рожчыцам належалі землі за Бугам і Мухаўцом. Дзед мастака набыў фальварак на аўкцыёне, а бацька атрымаў яго ў спадчыну.

Дзяцінства Фердынанда прайшло ў Лібаве, бо бацька працаваў на будаўніцтве Лібава-Роменскай чыгункі. Пасля сям'я пераехала ў Мінск: бацьку перавялі туды па службе.

## Вольны слухач Акадэміі мастацтваў

Вучыўся Рушчыц у гімназіі. Пасля яе заканчэння з залатым медалём у 1890 годзе паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. У наступным годзе пачаў наведваць заняткі ў Акадэміі мастацтваў як вольны слухач. Маляванню ён навучаўся яшчэ ў Мінску у Кузьмы Ермакова. Пасля двух год вучобы ва універсітэце Фердынанд развітаўся з юрыспрудэнцыяй і здаў экзамены ў Акадэмію мастацтваў.

Адначасова з вучобай Фердынанд наведвае выстаўкі, робіць накіды пецярбургскіх відарысаў, часта наведвае Эрмітаж. Паўночная сталіца Расейскай імперыі патрабуе грошай. Таму, каб здабыць неабходныя матэрыялы, мастак закладае ў ламбард студэнцкі мундзір. Нават два рублі, якія ён атрымаў там, здаваліся лепш, чым нічога. Адсутнасць грошай псавала настрой і перашкаджала творчым планам.

Падчас падарожжа ў Маскву мастак наведаў бібліятэку Траццякова. Мецэнат пакінуў уражанне чалавека, які з "інтэлігентнасцю і адданасцю ставіцца да сваёй працы". Пабачыў Рушчыц у Траццякова палотны Паленава, Верашчагіна, Рэпіна, Сурыкава. Вялікае ўражанне пакінулі творы Айвазоўскага. Нездарма нешта падобнае праглядае ў яго марыністычных творах, намаляваных падчас наведвання Крыму.

Аднак гэта было вучобай. Пасля, у Мінску, Фердынанда захапляе мясцовы каларыт, аналагічнага якому ён не бачыў ні ў чароўных фарбах Поўдня, ні ў замежжы. Таму і малюе ён пераважна мясцовыя краявіды. Да гэтага часу адносяцца такія яго працы, як "Млын зімою пры захадзе", "Пейзаж пагоркавы з рачулкай", "Млын".

**"Можна заставацца верным сваёй бацькаўшчыне, нягледзячы на ўсялякія спакусы... Бачым прыгажосць розных краін, дзівімся іх прыгажосці, аддаём ім належнае... Але ж любім толькі свой край, адчуваем, што ён належыць нам, а мы – яму".**

**18 лістапада 1894 года Павел Міхайлавіч Траццякоў купіў у мастака эцюд, заплаціўшы аж 50 рублёў. Самалюбства было цалкам задаволена. Мастак дабіўся гэтага поспеху сам і ганарыўся, што ў акадэміі ніхто не вылучаў яго сярод іншых, не пратэжыраваў. Толькі талент у суполцы з працай і трываласцю праклаў яму дарогу да поспеху.**

## Не толькі маляваць, але і шмат назіраць, думаць

Паціху пачалі рэалізоўвацца яго малюнкі. Сярод пакупнікоў значацца Філіп'ева, Вінаградская. Але сапраўдныя таўстасумы яшчэ прыглядаюцца да маладога таленту. Напрыклад, граф Талстой на адной з выставак, набыўшы шмат эцюдаў, не купіў у мастака аніводнага.

Цікава апісана ў дзённіку праца вялікага марыніста Айвазоўскага, які назваў мастакоў, што прысутнічалі на сустрэчы, сваімі ўнукамі. Карыстаўся ўвесь час ён толькі адным пэндзлем. Злёгку ім заціраў намаляванае. "За 1 гадзіну 55 хвілін зрабіў досыць вялікую карціну, а што да вартасці – дык адну з лепшых". Мастакі аддалі яму даніну павагі, і доўга яшчэ ў майстэрню заходзілі госці, каб паглядзець на гэты твор. Палітру ж дамовіліся зберагчы разам з фарбамі – як гістарычны ўспамін пра сустрэчу.

Цікавасць выклікае і простая, немудрагелістая жыццёвая філасофія Фердынанда Рушчыца. Калі ехаў у Крым на ахвяраваныя для яго студэнтам акадэміі Багаеўскім сродкі, Фердынанд развітваецца з Мінскам і піша: "Развітанне з Мінскам пачынае новы этап у маім жыцці. Набліжае нас да вёскі, да ўласнага кавалка зямлі. Мы, нібыта пасля доўгага шукання шчасця і спагады ў шырокім свеце, пераканаліся, што знайсці яго можна толькі ў сабе, у братэрстве, родНасных душах. Ды стомленымі вяртаемся пад той самы дах, які калісьці ўжо бачыў менш складаныя і, можа, больш натуральныя стасункі людзей".

Між іншым, навучанне падыходзіць да заканчэння. Адзнакай прафесіяналізму Фердынанд адзначае, што пачаў ужо больш спакойна, без прафесійнай зайздрасці глядзець на працы іншых. Піша ў больншых памерах. Не зважае на заўвагі крытыкаў. І хоча "маляваць тое, што асабліва падабаецца! Не толькі маляваць, але і шмат глядзець, назіраць, думаць. Не звяртаючы ўвагі на дробязі, займацца натурай і мастацтвам".

Гэта адчуваюць і мецэнаты. 18 лістапада 1894 года Павел Міхайлавіч Траццякоў купіў у мастака эцюд, заплаціўшы аж 50 рублёў. Самалюбства было цалкам задаволена. Мастак дабіўся гэтага поспеху сам і ганарыўся, што ў акадэміі ніхто не вылучаў яго сярод іншых, не пратэжыраваў. Толькі талент у суполцы з працай і трываласцю праклаў яму дарогу да поспеху.

Як спеваку патрэбны слухачы, так і мастак не ўяўляе свайго жыцця без адпаведнай аўдыторыі. Часам людзі прымушаюць мастака нервавацца з-за сваёй рэакцыі на яго творы. Бо каб стварыць шэдэўр, трэба шмат здароўя пакласці, а дастаткова і пяці хвілін, каб "даследчаная публіка" ацаніла, сказаўшы, што гэта – "добра", гэта – "не зусім", а тое – "зусім не цікавае". Гэткія фразы бянтэжаць. Бо аўтару патрэбна не пахвала, але ўвага ды большая пашана да яго працы. Пра гэта мастак пісаў так: "Тады хутка збіраеш працы, складаеш іх у скрыні, кідаешся на канапу і глядзіш некуды перад сабой, шкадуючы нечага, што носіш у сабе і так недарэчна паказваеш іншым".

У гэты ж час Фердынанд займаецца не толькі маляваннем, але і ўдзельнічае ў рэстаўрацыі касцёла Святой Кацярыны, за што і быў запрошаны ад імя адміністрацыі ў рэстаран Дано на Мойцы. Выдае каталогі выставак. Спрабуе сябе ў якасці кніжнага мастака.

І вось першага лістапада рашэннем рады акадэміі Фердынад Рушчыц і яго калегі Рэрых, Рылоў, Багаеўскі, Барысаў, Хімона, Сталіца, Урублеўскі, Калмыкоў і іншыя атрымалі званне мастака. З іх толькі чатырох – Барысава, Пурвіта, Сталіцу і Рушчыца – накіроўваюць за мяжу. Але паехаў туды толькі Пурвіт. 4 лістапада мастакам ўручылі дыпломы. 6 і 7 лістапада адгукнулася на гэтую падзею пецярбургская прэса. "Пецярбургская газета", "Новы час" і "Сусветныя водгаласы" змясцілі ўхвальныя рэцэнзіі пра працу мастака.

## Званне мастака

14 снежня 1897 года мастак выехаў у Багданаў, каб пачаць новы этап жыцця. У дзённіку ён адлюстраваны з 1897 па 1919 гады. Шмат цікавага даведаецца чытач з гэтых невялічкіх кавалкаў паперы, якія да гэтага часу захоўвае сын мастака Эдвард. Але віленскі перыяд жыцця цесна пераплецены з пецярбургскім. Пецярбургскае жыццё турбуе, абнадзейвае. Вось 31 студзеня 1897 года мастак прымае ўдзел у якасці члена журы на II вясновай выстаўцы Акадэміі мастацтваў. У "Новым часе" параўноўваюць Пецярбург з Афінамі часоў Перыкла. Мастак наведвае салоны, оперу "Багема" Дж.Пучыні. Дэкарацыі да яе мастак Каровін выканаў з вялікім густам. І, нарэшце, – матэрыяльная і маральная падтрымка. Сава Марозаў прапанаваў за "Млын зімою" 600 рублёў. 10 сакавіка вядомы публіцыст таго часу Жук-Скаршэўскі запрашае Фердынанда даць інтэрв'ю.

Атрыманых за карціны сродкаў хапае на вандроўкі за мяжу. Варшава, Берлін, Парыж. Усюды пабачыць прыгожае. Салоны. Выстаўкі. Манэ – апошняе ўражанне мастака аб Парыжы. У Мілане Фердынанд наведаў Салон прыгожых мастацтваў. Высновы, якія мастак зрабіў, уражваюць.

"Можна заставацца верным сваёй Бацькаўшчыне, нягледзячы на ўсялякія спакусы... Бачым прыгажосць розных краін, дзівімся іх прыгажосці, аддаём ім належнае... Але ж любім толькі свой край, адчуваем, што ён належыць нам, а мы – яму".

17 верасня 1897 года мастак пачынае маляваць "Зямлю", якая прынясе яму сусветную вядомасць, а для беларусаў стане сімвалам іх працы, жыцця. Але прага працы гоніць яго з Пецярбурга. Мастак не мае моцы знаходзіцца там. Радкі з дзённіка сведчаць пра гэта.

"Мастак заўсёды павінны зыходзіць з сябе, з уласнага пункту гледжання. Таму жыццё крыху ізаляванае, жыццё ў вёсцы спрыяе яго працы, тут ён – цэнтр вялікага кола, якое сам сабе акрэсліць. А ў вялікім горадзе гэтыя колы так перакрыжоўваюцца, так заблытваюцца, што мастак губляецца, а што найгоршае – пераконваецца, што ён паміж людзей адзінокі, бо ніхто ім не цікавіцца".

Адгукнуўся ў дзённіку мастак і на спробы ўлады паставіць у Вільні помнік Мураўёву-Вешальніку, які ў 1863-1865 гадах задушыў паўстанне ў Літве і Беларусі. Гэты помнік усё ж пастаяў на нашай шматпакутнай зямлі. Помнік кату. У 1903 годзе яго ўсталявалі перад Біскупавым палацам у Вільні. Але ў 1915 годзе, за некалькі дзён да ўваходу ў Вільню немцаў, помнік знялі і звезлі ў Расею.

**17 верасня 1897 года мастак пачынае маляваць "Зямлю", якая прынясе яму сусветную вядомасць, а для беларусаў стане сімвалам іх працы, жыцця.**

**"Я знайшоў словы, якія найлепш выказваюць мэту майго жыцця і маё права жыць: "Гэтай маёй зямлі – таму, што не маю нічога больш каштоўнага, – аддаю свае пачуцці, бо ведаю, што бласлаўлёныя тыя землі, якія моцна любім"**
**(Янкоўскі Ч. "Ашмянскі павет" т.IV, с.2).**

Любыя праявы прыніжэння чалавечай годнасці выклікаюць абурэнне мастака. Нават калі гэта тычыцца дэпартацыі датчан з Германіі. Пра здзекі ж з паўстанцаў 1863-1865 гадоў Фердынанд ведаў з вуснаў бацькі. Асабліваe ж абурэнне выклікаюць праявы гэтак званага "народнага шавінізму".

## Культура не можа мець межаў

У багданаўскім жыцці здараліся і вандроўкі. Вялікае ўражанне пакінула Крэва. Замкам. Кантрастам снегу і мура. Велічным стылем. Аднак мастак заняты падрыхтоўкай выставак у Пецярбурзе.

13 сакавіка 1899 года выстаўку акадэміі наведвае цар. "Дзве гадзіны хадзіў, усё аглядаў, але, мабыць, больш з-за далікатнасці, чым таму, што гэта яго займала. "Яны" нас не хутка ацэняць, мы застаёмся для іх заўсёды рамеснікамі, якія палююць на іх кішэнь і ласку...". Цар набыў батальнае палатно. Адкуль брацца густу? Бачыў Фердынанд 28 лютага 1900 года і ўсю царскую сям'ю: цара Мікалая II з жонкай, удаву Аляксандра III. Тлумачыў прыгажосць. Але набывалі рэчы найбанальнейшыя.

І зноў падарожжа. Кракаў. Берлін. Капенгаген. "Данія і Польшча маюць дзве аднолькавасці – вялікі смутак у сваіх дзеях і прыгожых жанчын". Вярнуўшыся, зноў за працу. Уражанні не даюць спыніцца. А запісы прысвячаюцца дому. "Я знайшоў словы, якія найлепш выказваюць мэту майго жыцця і маё права жыць: "Гэтай маёй зямлі – таму, што не маю нічога больш каштоўнага, – аддаю свае пачуцці, бо ведаю, што бласлаўлёныя тыя землі, якія моцна любім" (Янкоўскі Ч. "Ашмянскі павет" т.IV, с.2).

А грамадскасць адштурхвала ад сябе. Іншыя з зайздрасці, асноўная ж частка – з-за непадобнасці. У артыкуле ў "Расіі" пішацца, што Фердынанд мае ў сабе нешта, "что мало трогает нас". І хоць гэта непакоіла мастака, але ён стараўся думаць пра будучае. "Так мала яшчэ здзейснена, так няшмат дасягнута. Калі гляджу на тое, што я даў, – гэта так мала побач з тым, пра што я марыў і мару. А рэчаіснасць штодня рве і крышыць сэрца. Але з ранай паглыбляецца і любоў – адзінае вялікае, святое і вечнае".

І нічога ўжо не дадасі. Лепш не скажаш.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

## Усміхніцеся!

- Лепш працаваць заўтра, чым сёння! (лозунг)
- Не скардзіцеся на жыццё, магло не быць і гэтага.
- Думаю, што не зраблю памылкі, калі нічога не скажу.
- Галоўны недахоп розуму – гэта яго адсутнасць.
- Схапіць за жабры могуць толькі таго, хто трапіў на вудачку.
- Бойся ўкусу таго, хто есць вачыма.
- Самае прыемнае ў дзецях – гэта працэс іх вытворчасці.
- Не бывае так дрэнна, каб не магло быць яшчэ горш.
- Сур'ёзны твар – гэта яшчэ не прыкмета глыбокага розуму.
- "А ці не пайсці мне на работу", — падумаў я і не пайшоў.
- У яго быў такі склад розуму, што хоць вартаўніка наймай.
- Джэнтльмен – гэта той мужчына, які, запрасіўшы даўчыну да сябе дамоў паглядзець гравюры, паказвае ёй гравюры.

■ ПАРАДЫ

## Пастарайцеся, каб перамог смех

У сярэднія вякі гаварылі, што прыезд у горад вандроўнага цырка важней за караван з лякарствамі. Ужо тады разумелі, што смех і весялосць лечаць. Усё ж хацелася б ведаць, якія фізіялагічныя механізмы рэалізуюць смех у здароўе?

Як гаварыў фізіёлаг Ю.Урываеў, цэнтры смеха размешчаныя ў левай частцы лобных доляў галаўнога мозга і непасрэдна звязаныя з цэнтрамі мовы. Дамінаванне левага паўшар'я мозга прадвызначае арыентацыю на гумар.

Некаторыя лічаць, што канчатковы эфект смеху роўны ёгаўскай дыхальнай гімнастыцы. Аптымізацыя дыхання ў працэсе смеху рэзка паляпшае кровазабеспячэнне органаў і тканак, нармалізуе артэрыяльны ціск. Аўтаматычна паляпшаецца і самаадчуванне чалавека, яго настрой. У Аўстраліі выйшла кніга Зігмунда Фойерабенда "Смех лечыць рак". "Смех павінны нараджацца ў глыбіні душы, ён не прызнае аніякага фальшу. Смех – гэта светапогляд. Хвароба – таксама. Але ў аднаго чалавека не можа быць двух светапоглядаў. Адзін павінны ўзяць верх. Пастарайцеся, каб перамог смех...".

Толькі няшчасці прыходзяць самі сабой. А вось здольнасць радавацца трэба ў сабе развіваць. Вельмі важна адчуць абсурднасць няшчасця ці няўдачы, якая напаткала вас. Парада: трымайце ў бардачку свайго аўтамабіля клоунскі нос. Надзеньце яго, калі паедзеце вечарам з работы, і паглядзіце, як будуць рэагаваць на вас людзі. Гэта куды лепш, чым адразу пасля работы прапусціць чарку. А яшчэ лячыце сябе вітамінамі і зборнікамі анекдотаў: супердоза вітаміна С, супердоза смеху. Не ўпускайце любой магчымасці пасмяяцца! Старайцеся як мага больш усміхацца, і, як раіць нямецкая прымаўка, "бярыце прыклад з сонечных гадзіннікаў – вядзіце падлік толькі радасных дзён"!..

**Алена СМЕШНАЯ.**

■ ТЭСТ

# Ці лёгка вы паддаецеся настрою?

**Той, хто надта паддаецца настрою, страчвае пачуццё рэальнасці. Наадварот, той, хто надта цвяроза ацэньвае рэчаіснасць, у нечым абдзелены пачуццямі. Але бываюць такія моманты, калі патрэбна прыслухацца да свайго сэрца. А як у вас. Калі вы не можаце адразу адказаць на гэтак пытанне, праверце сябе з дапамогай тэста і гэтага здымка.**

**1. Як вы думаеце, што гэта за дом:**
а) памяшканне для скаціны;
б) закінуты жылы дом;
в) дом, вызначаны для зносу;
г) дом мастака
д) месца сустрэчы якой-небудзь секты.

**2. Што б вы зрабілі, калі б вам падарылі гэты дом:**
а) прадалі б яго;
б) карысталіся б ім і нічога не мянялі;
в) адрамантавалі б яго і пасадзілі сад;
г) адкрылі б санаторый;
д) зрабілі б пансіянат для адпачынку ў выхадныя.

**3. Як вы сабе ўяўляеце далейшы пейзаж вакол гэтага дома:**
а) далей гэтак жа пустынна, як і на здымку;
б) даліна, вакол якой узгоркі;
в) блізка мора;
г) вакол лес;
д) побач пачынаецца вёска.

**4. На што настройвае гэты від:**
а) на падрабязнае даследаванне ваколіц;
б) допінг для рашэння сваіх праблем;
в) на мары;
г) на абдумванне сваіх планаў;
д) хочацца як мага хутчэй пакінуць гэтае пустыннае месца.

**5. Чым бы вы дапоўнілі гэты здымак:**
а) людзьмі;
б) дрэвамі, кветкамі;
в) жывёламі;
г) небам;
д) якім-небудзь элементам пейзажу: узгоркам, рэчкай.



**6. Што на гэтым здымку вас найбольш уражвае:**
а) спосаб яго падачы;
б) перакрыжаванне дарог;
в) пачуццё бяспечнасці, якое стварае гэты дом;
г) адзінокая далечыня;
д) штосьці нявызначанае, што цяжка выказаць словамі.

**Паглядзіце на табліцу і падлічыце ачкі.**

| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| а | 4 | 7 | 6 | 3 | 2 | 6 |
| б | 2 | 12 | 10 | 6 | 7 | 2 |
| в | 1 | 2 | 5 | 5 | 6 | 10 |
| г | 7 | 6 | 7 | 8 | 10 | 4 |
| д | 10 | 10 | 2 | 1 | 5 | 3 |

## Вынікі:

**10-18 ачкоў**

Калі ў вас такі настрой, што ахвотна абнялі б увесь свет, гэта адразу і бачна. І гэтак жа без аглядкі пагружаецеся ў свае клопаты. Вельмі лёгка паддаецеся дыяметральна супрацьлегламу настрою, і ніхто не можа вам растлумачыць, што можа быць інакш. Вы кіруецеся, галоўным чынам, пачуццямі і эмоцыямі, што часта выклікае напружанасць у навакольных. Калі б вы маглі падстройвацца пад настрой іншых людзей, вы здабылі б намнога больш сімпатый.

**19-28 ачкоў**

Вашыя планы бываюць не адзін раз перакрэсленыя з-за нявызначанай змены настрою. Нават калі вы цудоўна забаўляецеся, а тут раптам стала сумна ці нечакана з'явілася жаданне дзейнасці, хаця яшчэ паўгадзіны назад марылі аб адпачынку. Вельмі часта вам бывае цяжка выканаць тое, што запланавалі. Часцей за ўсё вы аддаеце перавагу розуму, а не пачуццям, стараецеся не слухаць "унутраны голас". Не старайцеся зразумець настрой, хутчэй, трактуйце яго як непазбежны дадатак да вашых жаданняў і абавязкаў.

**29-41 ачко**

Старайцеся, каб ваш унутраны настрой заўсёды адпавядаў вашым паводзінам. І наогул, засцерагайцеся ад наплыву пачуццяў. У рэакцыях старайцеся кіравацца перш за ўсё рэальнасцю, а не пачуццямі. Той факт, што ў вас бывае розны настрой, павінны падказаць вам, што не ўсё ў жыцці рэгулюецца толькі розумам, не ўсё можна прадбачыць і не ўсім кіраваць.

**42-51 ачко**

Калі ваш мінутны настрой не адказвае вашым планам – старайцеся заглушыць яго і прызвычаіцца да сітуацыі. Знешне вы заўжды ўраўнаважаныя, нават калі ўнутры ў вас усё ўстае супраць таго, што, як вам здаецца, вы павінны зрабіць. Пакольк вы трымаеце свае пачуцці пад кантролем, трапляеце знянацку, калі вам не ўдаецца заставацца халодным і разумным. Вы згодныя нават з тым, што галіна, якую можна ахапіць выключна пачуццямі, застаецца для вас заўжды закрытай – толькі б не стаць залежным ад эмоцый.

**52-60 ачкоў**

Не існуе такой сітуацыі, у якой настрой мог бы перашкодзіць вашым планам. Тое, што вы адчуваеце, — разумнае дапаўненне таго, што вы ў гэты момант робіце. Бывае, што вы не можаце зразумець, чаму вы такія спакойныя і стрыманыя, калі іншыя ўпадаюць у эйфарыю. Вы кіруецеся выключна розумам, і таму вам цяжка зразумець, што людзі дзейнічаюць таксама пад уплывам пачуццяў, эмоцый і настрою. Аднак вы гэта павінны ўлічваць, калі не хочаце крыўдзіць іх сваімі ацэнкамі.

**Аляксандр РАЗУМОВІЧ.**

■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Радзільнае аддзяленне, ды не тое

**МАЛАДЗЕЧНА. "Алё! Радзільнае?" Гэтае пытанне я чую дома ў тэлефоннай трубцы амаль штодня.**

Мой хатні і тэлефон радзільнага аддзялення адрозніваюцца на "адзінку". Адказваю на пытанне па-рознаму. Усё залежыць ад настрою.

Усхваляваны муж і бацька пытаецца, як адчувае сябе жонка, і ці можа падысці яна да тэлефона. Адказваю: "А за ёй муж прыехаў і яе выпісалі".

– "Хто? Муж! Які муж?" – не разумее ён мяне. — А я тады хто?"

На гэтым размова і заканчваецца.

Часта просяць паклікаць да тэлефона Галю, Таню, Свету з якой-небудзь палаты. Я не адмаўляю. Толькі патрабую пачакаць гадзіну каля тэлефона. Бо трэба ж мне яшчэ да раддома дых назад збегаць.

Напэўна, мужы, бацькі, родныя памятаюць, як на пытанне, хто ў іх нарадзіўся, чулі ў адказ: двойня ці тройня. Рэакцыя была розная: "Не можа быць!?" ці "А абяцалі ж аднога!", ці "Тры дык тры – усе па-месцімся".

Бывае, што мая 4-гадовая дачушка трубку здымае. З ёй таксама размову пра справы радзільныя вядуць. Яна ім у сваю чаргу "кваліфікавана" адказвае на ўсе пытанні. Толькі потым у мяне пытаецца, дзе мы жывём і чаму ў нашай кватэры павінны дзяцей нараджаць. Маркую, тыя, хто размаўляе з ёй, думаюць, што гэта немаўля загаварыла, можа, і іх уласнае.



**Смех падарожжае жыццё. Пра гэта ведаюць і ў Маладзечне, і ў Шанхаі, і ў прыгарадзе Токіо. Усмешка не мае нацыянальнасці.**

Архіў "РГ".

Што казаць, медыцынскія работнікі і самі часта мне тэлефануюць. Пытаюцца адзін аднаго. І вельмі здзіўляюцца, чаму іх у мяне дома няма.

**Паліна ПРОЧКА.**

# Ліст Агінскага сыну Ірэніушу

**Прапануемы ліст Міхала Клеафаса Агінскага быў знойдзены супрацоўнікамі музея Агінскага (в.Залессе Смаргонскага раёна) у час працы ў гістарычным архіве Літвы ў Вільні. Гэты ліст захоўваецца ў фондзе князёў Агінскіх і носіць назву "Бацькоўскія парады М.К.Агінскага свайму сыну Ірэніушу на жыццёвы шлях у сувязі з падарожжам апошняга на вучобу ў Італію", датаваны 1825 годам. Пакінуўшы ў 1822 годзе Залессе, Міхал Агінскі ў той час жыў у Фларэнцыі. Яго сыну Ірэніушу споўнілася 17 гадоў, і ён накіроўваўся з Залесся ў Італію на вучобу. Агінскі звяртаецца да свайго сына і дае яму парады на пачатку самастойнага жыцця. Праз гэты ліст паспрабуем трошкі па-іншаму паглядзець на вядомага кампазітара і дзяржаўнага дзеяча – як на клапатлівага бацьку, што ў далёкай Італіі не перастае думаць пра сваю сям'ю.**

**Для нас гэты ліст таксама з'яўляецца помнікам гісторыі XIX стагоддзя, які дае ўяўленне аб культуры і традыцыях эпохі рамантызму.**



**Ірэніуш Клеафас Агінскі** (1808-1863) нарадзіўся ў Фларэнцыі. У Беларусь (Літву) у першы раз прыехаў каля 1811 года, але ў 1825 годзе зноў выехаў у Італію на вучобу. Пасля смерці бацькі (1833) вярнуўся і ўзяўся за кіраўніцтва вялізнымі маёнткамі. Да смерці маці (1851) меў рэзідэнцыю ў Залессі. Пры ім тут была пабудавана стайня, якая захавалася да нашых дзён.

Пазней перасяліўся ў г.Рэтаў (Літва), дзе пачаў праводзіць грамадскія пераўтварэнні. У 1835 годзе адмяніў ў сваіх уладаннях паншчыну, замяніўшы яе чыншам. У Рэтаве пабудаваў вуліцу і дзве шашы, адну, між іншым, да мяжы з Прусіяй. Стаў фундатарам двухкласнай агранамічнай школы (1859) з узорнай гаспадаркай і навучаннем на літоўскай мове. Падтрымліваў пачатковую школу, школу музыкі і спеваў. Заснаваў вясковую ашчадную касу, арганізоўваў выстаўкі гаспадарчых дасягненняў. У Рэтаве быў збудаваны велічны палац са знакамітай цяпліцай, касцёл Святога Міхала (1853-1874), у Вільні аднавіў капліцу божага цела ў касцёле Святога Яна, якую фундаваў яго прадзед Тадэвуш.

Ірэніуш Агінскі быў жанаты двойчы: з Юзэфінай Каліноўскай (1816-1844), а затым з 1845 года з яе сястрой Вольгай (памерла ў 1899 годзе), дочкамі генерала Войска Польскага Юзафа Каліноўскага. Меў ад другога шлюбу двух сыноў: Багдана Міхала (1848-1909) і Міхала Мікалая (1849-1902). Памёр і пахаваны ў Рэтаве.

## Размова бацькі з сынам

Дзіця маё, ты пакідаеш бацькоўскі дом, і з гэтага першага кроку пачынаецца новы этап твайго жыцця, з гэтага моманту ты можаш сказаць сабе – я пачынаю жыццё.

Задумайся і паміркуй разважліва над гэтым словам "жыццё": гэта не толькі праца жыцця, якая з'яўляецца агульнай для ўсіх жывых істотаў, але ўменне жыць – дзеля гэтага трэба задумацца аб сродках і сэнсе жыцця.

Няхай гэтыя словы "меркаваць, думаць" не пужаюць цябе, мой дарагі сын. Няма такога ўзросту, якому не быў бы ўласцівы розум, а навука жыцця такая ж, як і ўсе іншыя, якія было б можна вывучыць, калі толькі прызвычаіцца засяроджвацца на самім сабе, вывучаючы сябе, пераймаючы парады, якія даюць людзі, што будуць весці цябе першымі шляхамі твайго жыцця.

Я не далучаю сябе да ліку такіх павадыроў, але з дапамогай гэтага ліста буду размаўляць з табой так, быццам бы быў побач, даючы парады і наказы і, магчыма, яны будуць апошнія, калі толькі боская воля не дасць мне шчасця ўбачыць цябе зноў.

Вось што я табе раю і наказваю:

**1.Перад усім, засвой адну ісціну – чалавек – гэта не гульня выпадку, ён не нараджаецца без мэты.** Усім ён абавязаны свайму творцу – богу, рэлігія – гэта яго абавязак, без яго чалавек нішто, усяго толькі нязначная лічба. Перш за ўсё будзь хрысціянінам – рэлігію людзям даў сам гасподзь, спачатку быў проста вернікам, але намагайся стаць вернікам па перакананні. Усё, што зараз тут я табе апавяду, ты яшчэ не зусім разумееш, але аднойчы пераканаешся, што гэта запаведзь змяшчае тое, што спатрэбіцца, каб быць шчаслівым.

**2. Ні на імгненне не забывай нічога з таго, чым ты абавязаны сваёй самай першай дабрадзейцы — тваёй маці.** Нічога з таго, што яна дала табе аднойчы, якая любіць цябе з такой пяшчотай, меры якой ты яшчэ не зразумеў, але якую ты можаш зведаць і спраўдзіць, намагаючыся быць яе вартым. Ты дасягнеш поспеху, дзякуючы добрай і цвёрдай волі, усё залежыць толькі ад цябе. Прызвычайся нічога не гаварыць, папярэдне не запытаўшыся ў сябе: "А мая маці ці ўхваліць, ці не?..". І калі на гэтае пытанне тваё сумленне адкажа – мая матуля гэта ўхваліць, — тады дзейнічай смела, тваё пачуццё цябе не падмане. Калі яно скажа табе адваротнае, устрымайся, і ты пазбавішся ад памылкі і згрызотаў сумлення. Прымаючы гэта да ўвагі, ты ўспомніш пра тое, што яна табе наказвала і прасіла рабіць. Добра падумай, сынок, над гэтым словам "прасіць": ці зможаш ты адмовіць просьбе маці, такой добрай, пяшчотнай і каханай, як яна! Яе просьбы наконт тваіх паводзінаў такія:

**3. Будзь заўсёды раннім – падымайся на золку, як толькі пабудзяць, адразу падымайся і не давай часу для сну і ляноты, перамагай сябе.** Першае і неабходнае – прасі захаваць тваю цудоўную матулю, прасі блаславіць тваіх родных і самога цябе накіраваць на шлях дабрачыннасці. Затым, пасля гэтай першай справы, другая – гігіена. Чысціня цела ўплывае на чысціню душы.

**4. Што тычыцца ежы, ты павінны пазбягаць празмернасці, асабліва ў віне (калі не, то гэта дрэнна адаб'ецца на тваім здароўі, і ты гэта ведаеш), троху віна (на 2 пальцы), гэта ўсё, што ты можаш дазволіць сабе.** Не захапляйся таксама і півам, лепш за ўсё для цябе і твайго здароўя – гэта прахалодныя напоі. Трэба каб ты ведаў, што празмерная прага – гэта вынік дрэннай звычкі ці пашкоджанага страўніка, таму трэба пазбягаць залішняга ў ежы і піцці – усяго таго, што можа нашкодзіць здароўю.

**5. Ты захаваеш сваё здароўе, калі будзеш захоўваць чысціню, а таксама і рэжым.** Ёсць два віды гімнастыкі, да якіх у цябе ёсць слабасць – гэта язда вярхом і плаванне. Я хачу, каб ты іх развіваў і надалей, але каб рабіў гэта з асцярогай, якую яны патрабуюць. Спачатку я спадзяюся на чалавека, ад якога ты будзеш залежаць і давяраць, як наезніку, каб разлічваць на яго разважлівасць. Што тычыцца плавання, я павінны цябе папярэдзіць, а ты добра зразумець, што ёсць вялікая розніца паміж плаваннем у моры, рацэ ці возеры. Абодва мы калісьці плавалі, як рыбы, я бачыў, як ты смела кідаўся ў ваду, гэта давала мне самае вялікае задавальненне. Але там, дзе мы праводзілі лета, мы скакалі ў мора з лодкі. Там было глыбока і далёка да дна; а большасць рэкаў заўсёды з цячэннем і ў возерах на дне травы, ціна і багна – гэта вельмі небяспечна для ныральшчыкаў. Калі купаешся, не забывай аб розніцы плавання ў рацэ, моры ці возеры – памятай пра ўсё, што я табе скажу.

**6. Дзень трэба заканчваць таксама, як і пачынаў, з малітвай, успамінаючы тваю добрую матулю, яе клопаты аб табе.** Прааналізуй сябе – ці ацаніў ты на працягу мінулага дня гэтыя яе клопаты і дабрыню. Калі ты гэта зрабіў, то ўсявышні і тваё сумленне пашлюць табе спакойны сон. Але калі, на бяду, ты гэтага не зрабіў, трэба папрасіць прабачэння ва ўсявышняга, шчыра пакаяцца з рашэннем выправіцца і заспакоіць сваё сумленне, без чаго не можа быць сапраўднай радасці ў жыцці.

**7. Для паслуг я адпраўляю з табою Санці, слугу, які 3 гады апякуецца табою.** Трэба да яго ставіцца з пяшчотай, дабрынёй і нават удзячнасцю, таму што ён пакідае сваю жонку і дзяцей, каб ехаць з табою. Але паміж дабрынёй і фамільярнасцю ёсць вялікая розніца. Першае – велікадушнасць сэрца, другое — з-за пасрэднасці і пошласці. Нарадзіўшыся ва ўмовах не абслугоўваць, а быць тым, каго абслугоўваюць, ты абавязаны гэтаму перавагай выпадковасці, таму няма ніякай прычыны гэтым ганарыцца, тым не менш, гэтая перавага дадзеная табе. Табе трэба намагацца выхаванасцю і высакародствам пачуццяў, якія, надаючы табе сапраўдную значнасць, будуць табе доказам, што ўсё гэта дасталося табе толькі па волі фартуны.

**8. Каб замацаваць тваю звычку самааналізу, няма нічога лепш, чым завесці дзённік, каб запісваць усе свае ўчынкі і, асабліва, свае думкі.** Гэта звычка мае падвойную выгоду: звычка засяроджвацца на самім сабе, заглядаць у сябе, захаваць сябе; другое – сфармаваць стыль, здольнасць пісаць, калі станавішся пісьменнікам. Гэта прыдумана добра, бо звычка саманазірання яшчэ спрыяе лепшаму запамінанню падзей. Я вельмі задаволены, што гэтая звычка ёсць і ў тваіх сясцёр.

**9. А цяпер пра тое, што тычыцца тваіх заняткаў – тваёй вучобы.** Гэты пункт спатрэбіцца, каб пазнаёміць цябе з маімі поглядамі. Я прадракаю табе кар'еру дыпламата, таму што яна, спадзяюся, падойдзе табе больш за ўсё. Неабходна, каб твае заняткі былі накіраваныя для дасягнення гэтай мэты. Для пачатку — лекцыі па гуманізму. Ты ўжо валодаеш асновамі грэцкай мовы і мог бы, каб захацеў, валодаць ёй лепш. Неабходна табе прыкласці ўсе намаганні, таму што, я ўпэўнены, вывучэнне дзвюх класічных моў можа быць адначасовым, тым больш, што грэцкая мова папярэднічае лацінскай і дапамагае вывучэнню апошняй. З некаторага часу рамантызм у літаратуры, тое ж самае, што "cholera mortus" для народаў, але гэтая бяда пройдзе, як і ўсе іншыя – добрае і прыгожае застанецца такім назаўсёды, таму што дабро і прыгажосць, так як і ісціна, не змяняюцца ніколі. Тое, што распавёў табе тут у гэтым наказе, вышэй твайго разумення, але пачакай, пройдзе час і ты згодзішся са мной, што не можа быць добрых і моцных ведаў, калі яны не грунтуюцца на веданні гэтых дзвюх класічных моў.

**10. Я не буду паглыбляцца ў дэталі розных галінаў гістарычных і філасофскіх ведаў, якія ты павінны будзеш спасцігнуць, каб затым служыць з гонарам; парадак пераемнасці рэчаў, так як і выбар сродкаў, заўсёды ў распараджэнні адукаванага чалавека.** Я хачу далучыць яшчэ адно маё пажаданне – вывучаць сучасныя замежныя мовы, што неабходна для тваёй кар'еры, якую ты сабе выбярэш. У гэтую пару твайго жыцця памяць твая такая добрая, што авалодаць мовамі будзе лёгка, і гэта, у выніку, будзе вельмі карысна для цябе, таму што, несумненна, дапаможа табе далей зрабіць кар'еру.

**11. A guesto fine; non dimenticar, o caro mio la dolce favolla Toscana, la lingua di quel bel paese dove il si suona. *Недастаткова толькі размаўляць з Санці, бо гэта ўсяго толькі мова вуліцы Фларэнцыі.** Трэба добра вывучыць мову, неабходна яе разумець і любіць. Дзеля гэтага трэба чытаць кнігі лепшых італьянскіх аўтараў і трэба пісаць на гэтай мове. Лістуйся на італьянскай мове са сваімі сёстрамі.

**12. Пасля таго, як ты скончыш падрыхтоўчыя заняткі, ты будзеш працягваць навучанне ва універсітэце.** Намагайся заслужыць добразычлівасць тваіх аднакурснікаў роўнымі паводзінамі, прыязнымі і ветлівымі, для ўсіх аднолькавымі. Бываюць такія студэнты, неспакойнага характару, якім падабаецца шукаць сварак са сваімі таварышамі. Гэта чума, якой трэба пазбягаць з найлепшай стараннасцю, і самы лепшы сродак пазбягаць гэтага (я ўказваў табе вышэй) – быць з усімі як мага больш ветлівым і не ўцягвацца ў справы, якія ты лічыш для сябе непрымальнымі. Сапраўдная мужнасць у тым, каб быць непахісным і нязменным у выкананні сваіх абавязкаў. Часцей той, хто баіцца славы баязліўца і сваю ганарыстасць выдае за смеласць – той і ёсць баязліўца і даносчык. Апошняе лічыцца ў грамадстве самым агідным.

**13. Поўная паслухмянасць і давер да чалавека, які згодзіцца ўзяць на сябе клопат аб тваіх паводзінах і занятках.** Самы лепшы сродак заваяваць яго добразычлівасць – гэта педантычна выконваць свае абавязкі. Думай заўсёды аб чалавеку, які будзе нас замяняць. Ты павінны паважаць і слухаць яго, як свайго бацьку.

**14. На час тваёй вандроўкі ўсе клопаты аб табе захацелі ўзяць на сябе цётка і дзядзька** Далгарукія і апекавацца табой, як маці і бацька, да таго моманту, як вярнуць цябе ў рукі боскай волі, якая заменіць іх потым. Няма патрэбы табе казаць, як ты павінны сябе паводзіць са сваімі велікадушнымі роднымі. Я вельмі добра думаю аб табе, мой дружа, і ўпэўнены ў тым, што ты прыкладзеш усе намаганні, каб заслужыць іх прыязнасць, што ты будзеш шанаваць іх волевыяўленне.

Бывай, сынок, хай неба блаславіць цябе, як я гэта раблю ад усяго сэрца. Пішы нам не менш 2-х разоў на месяц. Хай давер і праўда заўсёды водзяць тваім пяром. З якім задавальненнем мы будзем даведвацца аб усіх тваіх поспехах, якія залежаць толькі ад цябе, і толькі ад цябе залежыць, калі надыдзе той шчаслівы дзень, калі мы зноў зможам цябе абняць. Калі ты нас любіш так, як я спадзяюся, гэта павінна цябе падтрымаць ва ўсіх тваіх пачынаннях. Не губляй нічога з таго, што я табе наказваў на працягу трох гадоў. Выкарыстоўвай мае наказы, каб вытрымаць экзамен, і гэта будзе адзіным сродкам, каб ты змог выканаць адну са сваіх мэтаў у Італіі, перад тым, як мы зноў убачымся, каб потым ужо ніколі не расставацца.

**Уладзімір ЛІХОТА, загадчык філіяла-музея М.К.Агінскага ў в.Залессе Смаргонскага раёна.**

■ ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

# Чакаем большага аб'ёму

**Публікуем найбольш цікавыя вытрымкі з лістоў нашых чытачоў, у якіх яны выказалі свае меркаванні па зместу нашай спартыўнай старонкі.**

## Меркаванні чытачоў

**Аляксандр Вярбіцкі** (Вілейка):

– Добра асвятляецца футбол: першынство рэспублікі, а вось абласны слаба і павярхова. Мала надаецца ўвагі дзіцячаму футболу і спорту ўвогуле. Занадта шмат месца займаюць не папулярныя зараз гарадкі... Шкада, што знік са старонак конкурс "Футболпрагноз", можна падумаць аб яго вяртанні.

**Мікалай Кіндра** (Смаргонь):

– Навіны даюцца мясцовыя, таму заўсёды цікавыя. Сапраўды, хацелася б, каб інфармацыя займала больш месца, чым адна старонка. Аднак гэта газета не спартыўная, патрэбна і іншая інфармацыя... Зараз, калі аб'ём газеты павялічыўся, можна хаця б раз у месяц "Сектар спорту" даваць на дзвюх старонках. А прапановы? Паболей конкурсаў! Напрыклад, некалькі гадоў таму быў конкурс прагнозаў на матчы чэмпіянату Беларусі. Прызы галоўную ролю не адыгрываюць, не ўсе будуць удзельнічаць дзеля прызоў, абагаціцца ўсё роўна не атрымаецца. Пераможцам можна ўручаць дыпломы... Можна часам рыхтаваць старонкі, прысвечаныя асобным раёнам, як там развіваецца спорт, альбо асобным відам спорту, як яны развіваюцца ў рэгіёне.

**Вячаслаў Курбака** (Маладзечна):

– Галоўнай камандзе рэгіёну па футболе "Маладзечна-2000" трэба надаваць больш увагі: павінны быць больш дэталёвыя рэпартажы аб матчах, аб падрыхтоўцы да сезона, трэба надрукаваць каляндар усіх таварыскіх матчаў, а таксама больш разгорнуты каляндар сустрэч чэмпіянату Беларусі... Нягледзячы на рэгіянальны накірунак у асвятленні спартыўных падзей, трэба звяртаць увагу на выступленне нацыянальных зборных і клубных каманд па розных відах спорту на міжнароднай арэне, бо наш рэгіён – частка адзінай і непадзельнай Беларусі, а мы – беларусы. І таксама хацелася б бачыць каляндар такіх спаборніцтваў на старонках "РГ".

Каб пасля такіх змяненняў газета не стала цалкам спартыўнай, трэба зменшыць колькасць матэрыялаў па другарадных спаборніцтвах (напрыклад, па дзіцячых і аматарскіх спаборніцтвах, па лёгкай атлетыцы, гарадках і т.п.).

**Аляксей Прэдка** (Камарова, Мядзельскі раён):

– Я разумею, што рэдакцыя газеты размешчана ў Маладзечне, і навіны ў асноўным ідуць адтуль, але пажадана, каб крыху больш навін друкавалася з іншых раёнаў... Пажадана, каб конкурсы праводзіліся часцей і прызы былі гусцей!

**Сяргей Ракоўскі** (Маладзечна):

– Я хачу не прапусціць каляндар сёлетніх матчаў "Маладзечна-2000"... Хацелася б чытаць у большым аб'ёме пра футбол. Хацелася б, каб расказалі пра спонсара "Маладзечна-2000", будзе ён ці не. Хацелася б ведаць, ці будзе існаваць калі-небудзь старая міні-футбольная каманда "Металург".



**Пераможца нашага конкурсу сярод чытачоў на веданне спартыўных правілаў Міраіда Сярпейка прызы атрымала ў рэдакцыі "РГ". За першае месца М. Сярпейка выйграла валейбольны мяч. Яе 20-гадовы сын Павел выйграў міні-баскетбол. Аляксандр Вярбіцкі з Вілейкі за другое месца атрымаў дартс, а смаргонец Мікалай Кіндра, які заняў чацвёртае месца ў агульным заліку, шалік ад футбольнага клуба "Маладзечна-2000".** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## Адказы

### Пра дадатковыя старонкі

Першай ластаўкай павелічэння аб'ёму спартыўнай інфармацыі былі нататкі кандыдата гістарычных навук Міхаіла Філістовіча пра футбол і гарадкі ў Маладзечне ў пасляваенныя гады, надрукаваныя 7 сакавіка. У сённяшнім нумары падрыхтавана асобная старонка аб плаванні. Будуць ажыццяўляцца падобныя праекты і ў далейшым. Так, ужо праз тыдзень, 11 красавіка, выйдзе разгорнуты матэрыял, прысвечаны старту ФК "Маладзечна-2000" у чарговым чэмпіянаце вышэйшай лігі. Там будзе змешчаны і каляндар матчаў клуба на сезон.

### Пра мясцовыя навіны

Аб значных міжнародных стартах беларусаў шмат пішуць у рэспубліканскай прэсе. Мы ж даём гэту інфармацыю, калі "засвяціўся" нехта з прадстаўнікоў рэгіёну.

Нам нельга адмаўляцца ад асвятлення спартыўнага жыцця ў раёнах, бо пра тых юнакоў і дзяўчат, якія ў будучым могуць стаць зоркамі спорту, акрамя мясцовай прэсы, у іх цяперашнім узросце больш ніхто не напіша.

Мы заўсёды радыя інфармацыі з месцаў. Калі журналісты "РГ" па нейкіх прычынах прапускаюць некаторыя падзеі, то і арганізатары спаборніцтваў, і іх удзельнікі без праблем могуць патэлефанаваць у рэдакцыю альбо даслаць свае апавяды па пошце. Будзем вітаць мы і новых аўтараў, якія б пастаянна дасылалі свае карэспандэнцыі з раёнаў.

### Пра конкурсы

Конкурсы, у якіх стаўка робіцца на веды, лепш праводзіць не часта (каб удзельнікі згаладаліся па барацьбе). Звычайна мы гэта робім зімою, калі вызваляецца плошча ад футбольных навін. Прагнозныя ж конкурсы, магчыма, будуць праводзіцца і ў іншую пару.

### Пра гарадкі

Гэта адзіны наш народны від спорту, які знаходзіцца на дастаткова высокай ступені развіцця. Думаецца, тэлебачанне магло б яго "раскруціць" да ўзроўню біятлона. Сапраўды, трэба, каб падчас спаборніцтваў на экране пастаянна была інфармацыя, хто са спартсменаў як выступае. Кідкі лідэраў можна паказваць у прамым эфіры і ў запісе, гэтак жа як стрэлы біятланістаў. Тут у гарадкоў нават перавага, бо фігуры адрозніваюцца адна ад другой, а пасля няўдалага кідку на пляцоўцы ўзнікаюць самыя непрадказальныя сітуацыі, якія, дарэчы, у газеце цяжка апісаць, а вось па тэлебачанні разглядзець лёгка.

Хочацца вярнуць цікавасць да гэтай гульні ў простых чытачоў-аматараў, а таксама падаць яе ў якасці смачнага прадукта да людзей, якія маглі б укласці ў развіццё гарадкоў свае грошы. Ёсць жа пэўныя зрухі. У краіне ўпершыню праведзены клубны чэмпіянат, з'явіліся поспехі на міжнароднай арэне. Там, дарэчы, праводзяцца этапы Кубка Еўропы, падобныя на этапы Кубка свету ў біятлоне.

### Пра футбольных спонсараў

Пра крыніцы вялікіх грошай, якія патрэбныя футбольнаму клубу вышэйшай лігі, усё роўна поўнай аб'ектыўнай інфармацыі ніхто не дасць. Таму лепш звяртаць увагу непасрэдна на гульню каманды і на ўмовы для яе падрыхтоўкі. Гэтыя паказчыкі найбольш адэкватна характарызуюць адносіны да клуба з боку яго гаспадароў.

### Пра міні-футбол

Той "Металург" ужо існаваць не будзе. Аднак гэта не галоўнае. Маладзечанцы ж могуць добра гуляць у міні-футбол, што пацвярджаюць кожнай зімой у абласных спаборніцтвах. Справа за грашыма на існаванне клуба.

### Ёсць ідэя

На заканчэнне прапанова ад аўтара гэтага каментарыя. Самым рэальным увасабленнем футбольнай еднасці горада і раёна Маладзечна было б утварэнне каманды выключна з мясцовых выхаванцаў, якая б летам выступала пад колерамі "Забудовы" ў другой лізе вялікага футбола, а зімою пад сцягам ЗМК – у вышэйшай лізе міні-футбола. Гэта дазволіць з'эканоміць сродкі на існаванне дзвюх такіх каманд, забяспечыць бесперапынны трэніровачны працэс, нарэшце, у поўнай меры паспрыяе наталенню футбольнай смагі ў маладзечанскіх аматараў спорту нумар адзін. Перад камандай не абавязкова будзе стаяць задача займаць самыя высокія месцы. Выступаць будуць тыя, хто не прабіўся праз дубль у склад "Маладзечна-2000", але без футбола свайго жыцця не ўяўляе. Хтосьці захоча спецыялізавацца толькі на міні-футболе, а хтосьці – толькі на вялікім полі. У любым выпадку кадраў на Маладзечаншчыне для такой каманды знойдзецца з лішкам.

Падрыхтаваў Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ ФУТБОЛ

## Нявызначанасць

**Складаная псіхалагічная сітуацыя зараз у маладзечанскім клубе.**

Менш чым за два тыдні да старту чэмпіянату не было вядома, ці застанецца працаваць галоўны трэнер Вячаслаў Акшаеў і яго памочнікі. Малазразумелае становішча і са складам футбалістаў.

Праблемы, як заўсёды, фінансавыя. Пры гэтым прэтэнзій да паступленняў з гарадскога бюджэту няма. Зімою планавалася, што падтрымліваць клуб на плыву будзе яго камерцыйная дзейнасць. Аднак дагэтуль карысці клубу яна не прыносіць.

Выезд у замежжа на якасныя палі ўсё адкладваўся і адкладваўся, пачынаючы з лютага. Зараз каманда рыхтуецца да стартавых матчаў чэмпіянату на земляным (без травы) полі СШ№5.

Кантрольны матч. 30 сакавіка, Мінск, грунт.

Маладзечна-2000 – Лакаматыў 0:0

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

## Табло

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

**МАЛАДЗЕЧНА. У швейцарскай Лазанне на мінулых выхадных прайшоў 31-ы чэмпіянат свету па кросе.**

У складзе зборнай Беларусі ездзіў маладзечанец **Руслан Садоўскі**. На дыстанцыі 4 км ён увайшоў у сотню лепшых, што беларусам удаецца не заўсёды. Заняў 89 месца са 126 удзельнікаў, пры гэтым стаў другім з чатырох суайчыннікаў.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ КАРАТЭ

**МІНСК. Прайшоў рэспубліканскі турнір па каратэ на прызы дзіцяча-юнацкага спартыўнага клуба "Дынама-Арсенал".**

Спартсмены спаборнічалі ў двух разрадах – ката і кумітэ. Усяго ўдзельнічала каля 300 каратыстаў з дзесяці спартыўных клубаў краіны. Наш рэгіён прадстаўляў клуб "Сакура". 12 выхаванцаў клуба прывезлі 6 медалёў.

У раздзеле ката **Наташа Цялюкіна** заняла 2-е месца сярод дзяўчынак 9-11 гадоў, а **Арцём Філанюк** стаў трэцім сярод хлопцаў 15-17 гадоў. У кумітэ другія месцы занялі **Анжаліка Тону** і **Арцём Філанюк**, а трэція – **Аляксандра Кастэнка** і **Яўген Шатаронак**.

Аддзел інфармацыі "РГ".

■ БІЯТЛОН

**МЯДЗЕЛ. Аляксей Козел заняў першае месца на чэмпіянаце вобласці па біятлоне сярод вучнёўскай моладзі.**

Ён – выхаванец Мядзельскай СДЮШАР, зараз займаецца ў абласной школе вышэйшага спартыўнага майстэрства ў Плешчаніцах.

Алесь ВЫСОЦКІ.

■ НА ГЭТЫМ ТЫДНІ ГУЛЯЮЦЬ

**4-6 красавіка, Маладзечна, ЗМК**

Традыцыйны турнір памяці Арнольда Бохана

У суботу і нядзелю пачатак з 10-00

**5-6 красавіка, Маладзечна, "Караліна"**

Турнір па більярдным спорце "Піраміда" сярод клубаў. У суботу і нядзелю пачатак з 10-00

■ НАШЫЯ ГРОШЫ

# Цэны растуць. Даходы падаюць

Міністэрства стытыстыкі і аналізу падлічыла, што за студзень-люты цэны на спажывецкія тавары падняліся на 6,3%. Ды і без дадзеных чыноўнікаў кожнаму пакупніку зразумела, што цэны не стаяць на месцы – просты поліэтыленавы пакет з малюнкам "у кветачкі" ў магазінах ужо каштуе больш за 300 рублёў, не кажучы ўжо пра тавары больш сур'ёзныя. Сакавіцкая інфляцыя яшчэ не падлічана, але меншай яна не будзе, бо росту спажывецкіх цэн садзейнічае павышэнню цэн вытворцамі прамысловай прадукцыі вытворча-тэхнічнага прызначэння. Спадзеючыся на зніжэнне тэмпаў інфляцыі вясной, Нацыянальны банк краіны з 21 сакавіка знізіў стаўку рэфінансавання да 37%, што, безумоўна, прывядзе да зніжэння даходнасці зберажэнняў грамадзян. Раённыя газеты ўжо ўвесь тыдзень друкуюць аб'явы банкаў аб зніжэнні ставак да 36-37% гадавых. Даходнасць укладаннняў грамадзян у беларускіх рублях падае – цяпер яна складае 3% у месяц, што дазваляе хоць і не зберагчы сродкі ад росту цэн, дык хоць трохі падзарабіць у параўнанні з ростам курсу замежнай валюты. Так, за тры месяцы года рубель у адносінах да долара страціў 80 рублёў, а за гэты перыяд долар, праканвертаваны ў беларускі рубель і размешчаны на ўкладзе ў банк, прынёс бы 180 рублёў. У выніку даход склаў бы 100 рублёў – ндрэнна. Менавіта таму ўклады ў банках растуць – за студзень-люты 2003 года яны павялічыліся на 21,5 працэнта. Крыніца гэтага росту – абавязковая, згодна з указам прэзідэнта, выплата заработнай платы работнікам. Бюджэт і суб'екты гаспадарання выдаюць рабочым і службоўцам не зароблену фактычна заработную плату, якая асядае ў банках, фарміруе попыт на наяўную замежную валюту. Долар і так ужо дасягнуў даўно прагназуемага ўзроўню 2000 рублёў. Далейшы пад'ём курсу будзе вызначацца ўкладаннем грошай у аграсектар, ростам інвестыцый ў эканоміку дзяржаўных прадпрыемстваў, якія падаюць у бездань. Судносіны курсу долара да еўра ў першую чаргу будуць вызначаца ростам цэн на нафту, падзеямі ў Іраку. Чым горшыя весткі з месцаў ваенных дзеянняў, тым ніжэй будзе курс долара. Аднак адзінай еўрапейскай валюце не варта радавацца – агрэсія ЗША і Вялікабрытаніі ўсё роўна калі-небудзь закончыцца, а тады ўжо амерыканцы возьмуць сваё. І еўра рэзка пакоціцца ўніз.

Беларускай валюце пакуль нічога не пагражае – яна не залежыць ад сусветных тэндэнцый і біржавых здзелак. Курс дaўно вызначаецца стратэгіяй развіцця эканомікі краіны, і яго параметры вызначаны да канца года. Магчымыя яго хістанні могуць толькі ўзмацніць рызыку ўбытку ад зберажэнняў сродкаў грамадзян у нацыянальнай валюце. Але пакуль прапанаваная банкамі стаўка, хоць і зменшыла магчымасці дадатковага даходу ад укладаў, дазваляе трохі падзарабіць – прыкладна на ўзроўні не вышэй 1,2-1,5% у месяц, што для нашай беднай краіны даволі нямала.

Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.

## ВІНШАВАНКІ

З юбілеем!
**Жыжла Людміла Фамінічна**
в. Лоцевічы Вілейскага раёна.
Мілая матуля! Сардэчна віншуем!
Жадаем моцнага здароўя, шчасця, даўгалецця, сямейнага дабрабыту!

Только ты в целом свете, родная,
Всё простишь, не осудишь, поймёшь.
Были в жизни твоей, мы знаем,
Ливни гроз, вихри бурь и порош.
Вьюги волосы посеребрили,
И морщинки не тают у глаз.
Только лучики в них не остыли,
Только сердца огонь не угас.
В этом мире, суровом, тревожном
Ты для нас - свет, тепло и покой.
Ты наш берег родной и надёжный
Рядом с бурной широкой рекой.
Так свети нам подольше, родная,
Долгим путь твой пусть будет земной.
Пусть беда и недоля лихая
Тебя обходят всегда стороной.
Пусть, как птицы, года пролетают -
Ты в свои пятьдесят молода!
Пусть же старости сердце не знает,
Век живи, не болей никогда.

*З любоўю і павагай муж, дочкі.*

Віншуем **Барыса Віктаравіча Буркевіча** з 40-годдзем! Жадаем шчасця, здароўя, усяго самага добрага. *Бацькі.*

Шчыра віншую з днём нараджэння **Ржачыцкую Ірыну!** Жадаю здароўя, шчасця, удачы, даўгалецця, бадзёрасці, сямейнага дабрабыту. *Света.*

**Зайка!** Я живу и понимаю, что не могу тебя забыть, я от любви изнемогаю. Другого мне не полюбить. *Юля.*

Віншуем з 40-годдзем **Андрэя Радзівілку!** Жадаем здароўя, шчасця, кахання! З павагай *сям'я Кельпутаў.*

Віншуем з 25-годдзем **Трубач Святлану Чаславаўну!** Жадаем быць заўсёды такою шчыраю, прыгожаю, здаровую, бадзёраю, рупліваю. *Наташа.*

Віншуем з днём нараджэння **Губіч Святлану** з в. Іжа. Жадаем шчасця, удачы, здароўя і поспехаў у вучобе. *Лена, Таня і Оля.*

Віншуем з 25-годдзем **(Губіч) Трубач Святлану!** Жадаем шчасця, здароўя, сямейнага дабрабыту, радасці і ўдачы. *Сям'я Карпіцкіх.*

Віншую з днём нараджэння **Гатоўку Наталлю Іосіфаўну!** Жадаю здароўя, сямейнага дабрабыту, шчасця, радасці і кахання. З павагай *Эдуард.*

Віншуем **Занкавіча Юру** з Вілейкі з днём нараджэння! Здароўя, кахання, удачы. *Мама, тата, брат.*

Віншуем **Клімовіча Івана Зігмундавіча** з Вілейкі з днём нараджэння! Жадаем здароўя, дабрабыту! *Жонка, дзеці.*

Віншуем з днём нараджэння музычнага кіраўніка д/с №5 г. Вілейкі **Вазняк Людмілу Іванаўну!** Здароўя, грошай. *Калектыў.*

Віншуем з днём нараджэння дарагую матулю **Більдзюг Галіну Станіславаўну**! Жадаем шчасця, здароўя, поспехаў. *Дзеці.*

Віншуем **Апяцёнка Уладзіміра** з юбілеем! Жадаем здароўя, кахання, удачы, сямейнага дабрабыту, вечнай маладосці. *Жонка, дачка, сын.*

Віншуем **Леакадзію Гаўрылаўну Давідовіч** з 55-годдзем! Жадаем здароўя, шчасця, удачы. *Муж, дзеці, унук.*

Віншуем **Касцюкевіч Таццяну** з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця, удачы, дабрабыту і кахання. *Сям'і Бічун, Мількота.*

Віншуем дарагога **Рубана Пятра Іосіфавіча** з юбілеем. Шчасця, здароўя, даўгалецця, дабрабыту табе на доўгія гады жыцця. *Шура з Вілейкі.*

Віншуем **Івана Васільевіча Глухава** з 55-годдзем! Здароўя, даўгалецця, здзяйсненя ўсіх мараў. *Любячыя Лена, Дзяніс.*

■ СЛУЖБА ДАІ

## Алкаголь машыне – не сябар

**МАЛАДЗЕЧНА. 28 сакавіка ў горадзе і раёне прайшоў Дзень бяспекі дарожнага руху пад заклікам "П'яны за рулём – злачынец". Яго галоўная мэта — яшчэ раз нагадаць вадзіцелям, што "алкаголь", "машына" – паняцці несумяшчальныя.**

Адзіны дзень інфармавання праводзіўся па ўсёй Мінскай вобласці. На здзіўленне, у Маладзечне за тры месяцы не адбылося ніводнага здарэння па віне п'янага вадзіцеля. Іх змянілі 11 астатніх: з-за наездаў на пешаходаў, перашкоды і сустрэчныя машыны. У мінулым годзе са 136 дарожна-транспартных здарэнняў 91 учынена нецвярозымі вадзіцелямі.

Як расказаў інспектар па адміністрацыйнай практыцы **Уладзімір Лукашык**, некаторыя вадзіцелі не ўчыняюць ДТЗ, затое рэгулярна затрымліваюцца патрулём. 20 сакавіка шосты раз, пачынаючы з 1999 года, аптрафаваны беспрацоўны жыхар Маладзечна. Але ў гэты раз ён папаўся з-за сутыкнення яго "Вольвы-244" з ВАЗ-2101. На шчасце, абышлося без ахвяр.

Вольга ПІЛІПЕНКА.

■ ТЭАТР

## Перанос прэм'еры

**МАЛАДЗЕЧНА. 27 сакавіка ў Мінскім абласным тэатры лялек "Батлейка" прайшло свята, прысвечанае Міжнароднаму дню тэатра.**

Адзначыць гэтую дату збіраліся прэм'ерай спектакля "Яна і я". Але з-за хваробы выканаўцы галоўнай ролі ў спектаклі **Міхася Асановіча** прэм'ера не адбылася. Яе перанеслі на нявызначаны пакуль тэрмін.

Замест гэтага гледачы паглядзелі дзіцячы спектакль "Тыграня Петрык". Разам з тыгранём яны шукалі адвагу і прайшлі ўсе выпрабаванні, пачынаючы з насмешак сяброў і да моцных вадзяных хваляў. Напрыканцы прадстаўнікі раённых і гарадскіх аддзелаў культуры, цэнтра пазашкольнай работы, сябры і іншыя гледачы ўручылі акцёрам тэатра лялек кветкі і падарункі. Так яны павіншавалі калектыў "Батлейкі" з прафесійным святам.

Вольга ПІЛІПЕНКА.

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно

На мінулае пытанне паступіла 12 правільных адказаў: Ніна Гараніна прынесла ў музей старажытны бакал, і сярод будаўнічых арганізацый прызёраў у Маладзечанскім гарадскім конкурсе па ахове прыроды не было.

Па ўмовах конкурсу, пяцёрку ўладальнікаў білетаў на дваіх на прагляд фільмаў у маладзечанскім кінатэатры "Радзіма" вызначыла жараба. Сёння пашанцавала **Каці Якубоўскай, Віктару Яцкоўскаму, Дзмітрыю Пакладку, Яўгену Дзюндзіну і Дзмітрыю Чаплінскаму.** Віншую пераможцаў і паведамляю, што білеты ў кіно іх чакаюць у рэдакцыі да наступнай пятніцы.

Наступныя пытанні. Каб адказаць на іх, прагледзьце лютаўскія нумары "Рэгіянальнай газеты".

1.Як звалі маці Адама Гурыновіча?

2.У якой краіне пахаваны Вінцэнт Жук-Грышкевіч?

Адказы прымаюцца да **15 гадзін аўторка, 8 красавіка, па маладзечанскім тэлефоне 69667. Як звычайна, на** кон выстаўляюцца 5 білетаў.

Юрый КАРПІЦКІ.

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Палююць на алюміній

**МЯДЗЕЛ. У раёне пачасціліся выпадкі крадзяжу каляровых металаў.**

За апошні час злодзеі знялі правады з ліній электраперадачы ў трох месцах раёна. Не грэбуюць і малым: з прысядзібнага ўчастка мядзельца скралі 60 метраў алюмініевага проваду.

Алесь ВЫСОЦКІ.

## Згарэла машына

**МАЛАДЗЕЧНА. 29 сакавіка ў двары па вуліцы Хмяльніцкага згарэла машына.**

Машына (накшталт УАЗа, толькі армянскай вытворчасці) з-за няспраўнасці стаяла ў двары тры тыдні. Пажар адбыўся ў тры гадзіны ночы.

Калі прыехалі пажарныя, аўтамабіль гарэў знутры адкрытым полымем. Мяркуецца, што гэта быў падпал. Машына ўзнаўленню не падлягае.

Ірына РАБУШКА.

## Марыхуана

**МАЛАДЗЕЧНА. 28 сакавіка маладзечанец спрабаваў збыць марыхуану.**

Гэты факт устанавілі супрацоўнікі групы па барацьбе з незаконным абаротам наркотыкаў і ДАІ Маладзечанскага ГРАУС. Праводзіцца праверка.

Ірына РАБУШКА.

■ ІМЯНІНЫ

**4 красавіка**
**Праваслаўныя**: Васіля, Ісака.
**Каталіцкія**: Вацлава, Ізыдара.

**5 красавіка**
**Праваслаўныя**: Лідзіі, Амфілохія, Васіля, Генадзя, Дзмітрыя.
**Каталіцкія**: Ірэны, Вінцэнты.

**6 красавіка**
**Праваслаўныя**: Артамона, Захара, Пятра, Якава.
**Каталіцкія**: Пятра, Часлава.

**7 красавіка**
**Праваслаўныя**: Благавешчанне, Аляксандра.
**Каталіцкія**: Даната, Руфіна, Сатурніна, Яна.

**8 красавіка**
**Праваслаўныя**: Алы, Ганны, Ларысы, Васіля, Гаўрылы, Сілы, Сямёна.
**Каталіцкія**: Цэзарыны, Дзіянізя, Януарыя.

**9 красавіка**
**Праваслаўныя**: Матроны, Івана.
**Каталіцкія**: Марыі, Марцэля.

**10 красавіка**
**Праваслаўныя**: Іларыёна, Сцяпана, Яўстрата.
**Каталіцкія**: Макара, Міхала.

## Кінатэатр «Радзіма»

**4-6 красавіка**. Маладзёжная камедыя **"Кароль вечарынак"**, ЗША – у 15.00 і 17.00.
**"Басейн"**, ЗША-Германія, трылер – у 19.00 і 21.00. Акрамя асоб да 18 гадоў.
**7-13 красавіка**. Лепшы прыгодніцкі фільм (6 намінацый на прэмію "Оскар") **"Уладар кольцаў: дзве крэпасці"**, ЗША-Новая Зеландыя, 2 серыі – у 18.00.
**7-10 красавіка**. Экстрэмальная камедыя **"Адмарожаныя"**, ЗША – у 21.00.

### Для дзяцей

**5, 6 красавіка. "Тытанік"**, ЗША, мультфільм – у 13.00.
**Запрашаем на маладзёжныя вечарынкі ў пятніцу і суботу ў 22.00**. Для вас іграе ансамбль "Бульба-бум". Дыскатэка для падлеткаў – у суботу, у 19.00. Прыходзьце! Будзе весела. Працуе бар.
**Камп'ютэрныя гульні** (прыстаўка "Соні"). Штодзённа, акрамя панядзелка, з 10.00 да 22.00.
Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

***Кінатэатру "Мір" г.п. Радашкавічы патрабуюцца дырэктар, бармен. Т. 71702.***

## Купон 14

Рэгіянальная газета

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

### Звярніце ўвагу

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету! Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

## ЗНАЁМСТВЫ

Прыемная жанчына 51/163 пазнаёміцца з прыемным мужчынам для сяброўскіх адносін. Маладзечна-7, н/п МС0823657.

Пазнаёмлюся з абаяльным, добрым мужчынам ад 45 да 55 гадоў для сур'ёзных адносін. Пра сябе: 45/170/70. Маладзечна-4, а/с 9.

Прывабная жанчына без жыллёвых праблем пазнаёміцца з прыстойным мужчынам 48-58 гадоў без жыллёвых праблем для сур'ёзных адносін. 222310 Маладзечна-4, п/д 04831691.

Пазнаёмлюся з мужчынам для сур'ёзных адносін. 231000 г.Смаргонь, п/п КН0903835.

Мужчына 30/180/90 пазнаёміцца з жанчынай да 40 гадоў без жыллёвых праблем. Маладзечна-6, п/п МС 0629527.

48/170/80. Для стварэння сям'і пазнаёмлюся з жанчынай ад 40 да 52 год, згоднай на пераезд. Маладзечна-1, н/п МС 05919556.

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## Ад якога пачуцця залежаце?



**Людміла Барысевіч, кіраўнік ансамбля танца "Сонечны праменьчык":**

— Ад кахання. Але не толькі да мужчыны. Калі я люблю, я штосьці-небудзь ствараю, я жыву. Нават ежа інакш гатуецца. Адчуваеш сябе здаровай, адчуваеш радасць жыцця. А грошы адыходзяць на іншы план.



**Наталля Баранава, настаўніца СШ №1:**

— Ад пачуцця голаду. У большай ступені ад інтэлектуальнага. Гэта перашкаджае працаваць і жыць. Таму сілкуюся на выстаўках, у бібліятэках.



**Аляксандр Васільеў, беспрацоўны:**

— Ні ад якога. Я сам сабой кірую. Раблю тое, што хачу. Працую сам на сябе.

У сям'і ўсё залежыць ад надвор'я ў хаце. А надвор'е ствараем усёй сям'ёй.



**Галіна Янушкевіч,работнік рэгіянальнага цэнтра занятасці насельніцтва.**

— Ад пачуцця суперажывання. Стараюся заўжды дапамагчы людзям. Каму адзеннем, каму кнігай. Мяркую, калі я буду дапамагаць, то і мне будуць дапамагаць. У будучым гэта адплаціцца.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ НАДВОР'Е

| **Мінск** | 4.04 дзень | 4.04 вечар | 5.04 дзень | 5.04 вечар |
|---|---|---|---|---|
| ападкі | | | | |
| атмасферны ціск, мм | 739 | 738 | 727 | 725 |
| тэмпература паветра, °С | 1 – 3 | -1 – -3 | 1 – -1 | -1 – -3 |
| вільготнасць паветра, % | 68 | 80 | 94 | 96 |
| вецер, м/сек | 2-5 | 1-3 | 2-5 | 2-5 |

| **Вільня** | 4.04 дзень | 4.04 вечар | 5.04 дзень | 5.04 вечар |
|---|---|---|---|---|
| ападкі | | | | |
| атмасферны ціск, мм | 746 | 745 | 734 | 733 |
| тэмпература паветра, °С | 4 – 6 | 0 – -2 | 1 – -1 | -3 – -5 |
| вільготнасць паветра, % | 43 | 67 | 89 | 91 |
| вецер, м/сек | 2-5 | 2-5 | 4-7 | 2-5 |

## Чытайце праз тыдзень:

● **Анкета «Рэгіянальнай газеты».** 10 фірменных маек разыгрываюцца сярод чытачоў газеты, якія запоўняць нашую анкету. Адкажыце на пытанні, раскажыце пра сябе, чым цікавіцеся, і мы зробім усё, каб сталі яшчэ бліжэй з вамі.

## Жартаўлівы гараскоп



**Авен (21.03–20.04)**

Забудзьцеся аб дрэнным настроі. Вас чакае вялізны поспех ў супрацьлеглага полу. Яны будуць праследаваць вас увесь год, а потым вам прыйдзецца жаніцца, хаця пазбегнуць гэтага можна – трэба пайсці ў манастыр.



**Цялец (21.04–21.05)**

Вам не ўдасца пазбегнуць расплаты, прыйшла ваша чарга атрымліваць асалоду ад жыцця. Няўжо вас гэта не радуе? З сённяшняга дня вас чакае прыбытковая справа. Яна прынясе шмат грошай, кватэру, новае жыццё з прыгажуняй-жонкай, з якой, як кажуць зоркі, да канца года вы развядзецеся і ўсё, што нажылі за год, прыйдзецца пакінуць ёй, так што, ці жаніцеся, але не працуйце, ці працуйце, але ні ў якім выпадку не жаніцеся.



**Блізняты (22.05–21.06)**

Вы нарэшце зможаце знайсці сваю палавіну, а менавіта брата/сястру блізнятку. А ў астатнім усё будзе не так і дрэнна.



**Рак (22.06–23.07)**

Вам пашанцавала, споўніцца ваша самая запаветная мара, і вы зможаце сустракацца адразу з некалькімі жанчынамі, якія ўмеюць гатаваць. Жанчынам жа пашанцуе з мужчынамі. Але для гэтага вам прыйдзецца залезці на гару і свіснуць.



**Леў (24.07–23.08)**

А вось вам трэба падумаць пра сваё здароўе і перайсці на раслінную ежу, напрыклад, моркву. Кажуць, Ільвам яна карысная для зроку. Так што забудзьцеся пра мяса. Пры выкананні гэтай умовы вы можаце дастаць да зорак.



**Дзева (24.08–23.09)**

Ваш прынц нарэшце вас знойдзе, толькі не выходзьце з дому, інакш ён можа прыйсці тады, калі вас няма. Займіцеся пакуль прыгатаваннем вячэры, вязаннем і ўпрыгажэннем кватэры. На ўсялякі выпадак. А вось прынц акажацца пераборлівым?



**Шалі (24.09–23.10)**

Дастаньце магніт з-пад чашы шаляў, і вашае жыццё ўраўнаважыцца. Толькі цяпер будзьце больш акуратнымі.



**Скарпіён (24.10–22.11)**

Кажуць, што вашае жыццё нарэшце стане вас задавальняць цалкам. Але ненадоўга. Так што карыстайцеся момантам.



**Стралец (23.11–21.12)**

Вы зможаце нарэшце папасці ў цэль меткай рукой. Толькі не бойцеся, бо любы звер, нават самы небяспечны, баіцца дужых паляўнічых.



**Казярог (22.12–20.01)**

Вам удасца ўдачна замяніць рогі на новыя. Пасля замены вашае жыццё пяройдзе на новы ўзровень – новыя рогі – новае жыццё. А на старых рагах вы зможаце выгадна зарабіць. Калі прадасце.



**Вадалей (21.01–19.02)**

Перастаньце разліваць ваду, хто гэта будзе, па вашаму, прыбіраць.



**Рыбы (20.02–20.03)**

Вам трэба жыць з Вадалеямі, інакш можаце памерці без вады. Хаця існуе альтэрнатыва, вы можаце парэвалюцыянаваць да новага віду і выйсці на сушу.

## Гісторыя пра манікюр

Дзяўчаты, што жывуць побач, часам збіраюцца пасядзець на кухні. Выходзяць "на сяло". Абмеркаваць тое-сёе з гаспадарчых спраў, падзяліцца рэцэптамі смакоцця. Ды абмеркаваць пытанні прыгажосці. Бо кухня – самае цёплае месца ў інтэрнаце. А пытанні прыгажосці ў жаночым царстве – найгалоўнейшыя.

Вось і сёння, калі дзяліліся рэцэптамі салатаў, не маглі не закрануць пытанняў прыгажосці. Манікюр. Мара жанчын, незалежная ад узросту. Шмат каму з іх даводзіцца працаваць фізічна (з-за нашай мужчынскай нядбайнасці), таму гэта і застаецца мараю. Асабліва цяпер, калі не хапае вітаміна Е.

Таму пачуў вось такі рэцэпт. Калі свае кіпці крохкія ці адрошчваць іх не дазваляе справа, выкарыстоўваюць накладныя. А іх, кітайскай вытворчасці, цяпер хапае ў шапіках. Але трэба іх папярэдне прымацаваць да пазногцяў... суперклеем. Што ж будзе са сваімі пасля гэткіх здзекаў, засталося нявысветленым. Таму не раю выкарыстоўваць гэтую інфармацыю як параду.

Я ж зацікавіўся: а чаму суперклеем? Мо' б "Момантам" было б лепш? Парадчыца незразумела азірнулася на мяне і амаль з абурэннем сказала:

— Не хапала толькі, каб перад гасцямі адзін з кіпцяў адваліўся б каму-небудзь у салату! Які ж гэта манікюр?!

Так! Быць прыгожай – гэта не толькі прыемна, але і патрабуе бясконцых ахвяр. Так што, мужчыны, кажыце, што вашыя жонкі найпрыгажэйшыя. Ахвяр будзе менш.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

■ СУСТРЭЧЫ

## Матэматык-паэт

**ВАЛОЖЫН. У Івянецкім Доме культуры прайшла вечарына мясцовага паэта Івана Вальчэўскага.**

Ён – настаўнік вышэйшай катэгорыі, выкладае матэматыку ў Івянецкай школе. І. Вальчэўскі падрыхтаваў да друку зборнік вершаў і гумарэсак. У сваіх творах не пакідае без увагі мясцовыя падзеі, школьную праблематыку, перакладае вядомыя песні на мясцовы лад.

Настаўнікі школы падрыхтавалі і выканалі нізку вершаў Івана Вальчэўскага.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ МОЛАДЗЬ

## Прагульшчыкаў не дапускаць

**ВІЛЕЙКА. У райвыканкоме адбылося паседжанне камісіі па справах непаўналетніх, на якім разбіраліся пытанні работы прыватных камп'ютэрных клубаў.**

Цяпер іх уладальнікі павінныя падтрымліваць сувязь з вучэбнымі ўстановамі горада з мэтай не дапускаць да гульні на камп'ютэры вучняў, якія прагульваць урокі. Падобная дамоўленасць ёсць і ў Маладзечне.

**Ігар КІЦІКАЎ.**



**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017**

РЭГІЯНАЛЬНАЯ газета

Заснавальнікі:
Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **10760 экз.**
Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі.
У розніцу – цана свабодная. **№ 14 (415) 4.4.2003**. РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ.
222310, Маладзечна, вул. Таўлая,11. Зак. № 1359. Падпісана ў друк у 13.00 3.4.2003

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**
**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841. Чысць:** вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». **Тэл. 99172.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 55284.**
**Вілейка:** вул. 17 верасня, 30, пошта. **Тэл. 55233, 55539.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 1, аддзяленне сувязі Смаргонь-2. **Тэл. 22211.**

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41 (рэклама), 5-07-99.**
**E-mail: regionnews@promedia.by**
**http://regionnews.promedia.by**

**Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444**